

Уладзімір Данілюк → 3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Макаўскія бярозкі → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3009) Год LIX | Беласток, 12 студзеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Калі вучні рашаюцца развучваць, а пасля паказваць абрады, раней знаёмяцца з жыццём сваіх продкаў. Комплекс школ у Чыжах асабліва ангажуецца ў падтрымліванне нашых традыцый. Вучні пад наглядам настаўніц беларускай мовы, праваслаўнай рэлігіі і іншых прадметаў паказваюць абрады, якія на Гайнаўшчыне перадаваліся з пакалення ў пакаленне.**



Настаўніца Валянціна Андрасюк паказала вучням вышываныя і карункавыя вырабы

# Вячоркі ў Чыжах

Спачатку гімназісты з дапамогай бацькоў арганізавалі ў школе традыцыйную Куццю, а пасля вучні прэзентавалі гульні, якія ў мінулым ладзіліся ў Шчодры вечар і перад Вялікім постам, у маслены перыяд. У гэтым годзе вучні Падставовай школы ў Чыжах запрэзентавалі абрад «Вячоркі». У снежні, у перыяд Філіпавага посту, у вясковай святліцы ў Чыжах спатkаліся вучні, настаўнікі, бабулі і працаўнікі Гміннага асяродка культуры, на чале з яго дырэктарам Юрым Якімюком. Ганаровым госцем мерапрыемства быў войт Юры Васілюк. Дзяўчаты і хлопцы з дапамогай настаўніц і бабуль паказалі як можна было ў мінулым радасна праводзіць доўгія зімовыя вечары без тэлевізара, камп'ютара і мабільніка, без якіх зараз моладзь не ўяўляе сабе жыцця, а бывае, што становіцца ад іх залежнай. Сустрэчу адкрыў дырэктар школы Мірaслаў Пяткевіч, які ў сваёй адукацыйнай установе зрабіў стаўку менавіта на вяртанне да традыцый.

Галоўным арганізатарам «Вячорак» і вядучай мерапрыемства была настаўніца беларускай мовы Валянціна Андрасюк, якая напісала сцэнарый адмысловай сустрэчы.

— Я сама ў дзяцінстве хадзіла з мамай на вячоркі і выкарыстала гэты досвед, рыхтуючыся да сённяшняга мерапрыемства. Пакажам заняткі, якія вясковыя жанчыны выконвалі ў зімовыя вечары і запрэзентуем некаторыя традыцыйныя гульні, — заявіла Валянціна Андрасюк, якая абрады, характэрныя будным і святочным дням, звяла ў адно мерапрыемства.

Каб стварыць атмасферу прошлага, вучні выканалі макет хлебнай печы і прынеслі даўні кухонны посуд, які захоўваецца ў школе. Прынеслі ў святліцу вышываныя ручнікі, даўнія макаткі і абрусы, якія перахоўваліся ў куфрах, у нас называных сундукамі. Расказваць малодшым сябрам пра колішнюю вопратку і вырабы прыйшлі гімназісткі Клаўдзія Сапешка і Беата Красько. Пакарысталіся яны мультымедыйным абсталяваннем і хаця яно не супадала з атмасферай даўняй беларускай вёскі, то давала магчымасць паказаць здымкі арыгінальных палатняных вырабаў, кажухоў і аздабленняў.

Бабулі прыйшлі на спатканне з калаўротkам, пруткамі, пер'ем і паказалі чым займаліся жанчыны ў доўгія зімовыя вечары. Вольга Ахрымюк прыйшла ў прыгожа вышытай блузцы і прынесла вышытую засцілку, на якой рыхтавала кудзелю да прадзення.

— У мінулым пралі цэлымі вечарамі, бо трэба было напрасці мноства нітак на бялізну і верхнюю вопратку, — сказала Вольга Ахрымюк, якая запрэзентавала сваё ўмеласці ў працы з калаўротkам.

— Што ў Філіпаўку спрадзеца, тое ў Вялікі пост сатчэцца, — напомніла старую прымаўку настаўніца Валянціна Андрасюк.

Жанчыны, што прыйшлі на сустрэчу, расказвалі аб вясковым жыцці ў час іх моладасці. Ніна Грыгарук з Курашава распавяла як моладзь у час Філіпавага посту рыхтавалася да калядавання, як абклейвала звязду і ў святочныя вечары развучвала калядкі. Звярнула яна ўвагу на шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя, калі пасля радаснага калядавання моладзь малілася ў царкве ў час заказной літургіі і гасцявала з выкарыстаннем закалядаванага. Спадарыня Ніна паказала пакрывала з каляровымі ўзорамі, на якім вянчалася, і частавала сабраных аладкамі.

— Водка горкая, але яе п'юць, замужам дрэнна, але дзяўчаты замуж ідуць, — успомніла народную прыказку Ніна Грыгарук і з гумарам пакрытыкавала прывычку курэння, якая калісь характэрная была хлопцам, а цяпер прывабная таксама для дзяўчат. — Зараз вучні мала ведаюць аб абрадах і даўніх занятках. Калі мы ім раскажам, што мы рабілі будучы маладымі і пакажам, на якіх прыладах працавалі, то яны будуць ведаць як жыла вёска ў мінулым.

Кацярына Ціханюк са Збуча распавяла пра свае дзіцячыя мары, калі дзеткі паўсюдна карысталіся саматканымі вырабамі і пад наглядам мам вучыліся рукадзеллю.

— Наш абавязак — вучыць маладых традыцыям з прошлага, — заявіла Кацярына Ціханюк.

Вучні Мікола Баніфацюк і Матэвуш Семянюк пераапрануліся за вясковых жанчын і выступілі з гумарыстычнай сцэнкай. Раней пакідваліся яны, што вяжуць на прутках і выконваюць іншыя заняткі.

— Файна тут, бо можам пазнаёміцца з заняткамі і формамі адпачынку нашых продкаў. Бачым, што цікавымі былі гульні, але праца была цяжкай. Пра колішняе жыццё расказвала мне прабабуля. Тут я даведаўся пра гульні і пазнаёміўся з модай у мінулым, — сказаў Мікола Баніфацюк.

— Мы выступілі з гумарам, каб развесяліць удзельнікаў мерапрыемства, але многаму мы самі можам тут павучыцца, — дабавіў Матэвуш Семянюк.

На «Вячоркі» прыйшлі вучні з чацвёртага па шосты клас. Каб была магчымасць актыўна вучыцца традыцыям, былі наладжаны спаборніцтвы з выкарыстаннем даўніх гульняў. Вучні гулялі ў жмуркі, траплялі клубкамі нітак у міскі, стараліся як найхутчэй развіваць моткі, аддзялялі гарох ад бобу, стараліся хутка і дакладна выканаць ёлачныя ланцужкі, разгадвалі народныя загадкі. Пасля падвядзення вынікаў спаборніцтваў аказалася, што перамагла моладзь шостага класа, а другое раўнапраўнае месца занялі вучні чацвёртага і пятага класаў. Дзяўчаты і хлопцы праспявалі яшчэ даўнія калядкі і былі рады ласункам і пачастунку, які завяршыў спатканне. Падарунак ад вучняў і настаўнікаў атрымаў войт Юры Васілюк, а падзячныя лісты атрымалі прысутныя на «Вячорках» бабулі.



Бабулі прыйшлі на спатканне з калаўротkам, пруткамі і пер'ем

— Маем дачыненне з цікавым адукацыйным мерапрыемствам. Такія сустрэчы асабліва патрэбныя для маладога пакалення, якое бачыць вясковыя прылады працы толькі ў музеях. Ствараем магчымасць паглядзець на розную працу ўручную. Частка гульняў, якія тут паказваліся, пэўна таксама былі для вучняў віртуальнай справай. Добра, што прыйшлі асобы, якія памятаюць колішняе жыццё і надзелены дарам умелага расказвання, дзякуючы чаму маглі зацікавіць моладзь сваімі аповедамі. Добра, што ў нашай школе вучні на практыцы знаёмяцца з абрадамі і жыццём продкаў, бо без знаёмства прошлага складана будаваць сваю тоеснасць і будучыню, — сказаў войт Юры Васілюк у час «Вячорак», якіх арганізацыю падтрымалі сродкі Гміннага асяродка культуры. На заканчэнне сабраныя падмацаваліся посным пачастункам, мелі магчымасць паспрабаваць аладкі, выкананыя паводле рэцэптур мясцовых бабуль.

— Мы раней знаёмілі вучняў з абрадамі, каб захаваць іх ад забыцця. Цяпер рашыліся арганізаваць «Вячоркі» — адукацыйнае спатканне, у час якога вучні знаёмяцца з жыццём у прошлым. Сёння ўжо адпаведны час да спявання калядак і таму славім Хрыстовае Нараджэнне, якое ўжо хутка будзем адзначаць, — сказала на развітанне настаўніца беларускай мовы Валянціна Андрасюк і падзякавала за дапамогу ў падрыхтоўцы імпрэзы настаўніцам Марыёлі Падсядлік, Галене Кляпацкай, Яўгеніі Козяк, Альжбеце Міхалюк, школьный бібліятэкарцы Хрысціні Нікалаюк і гміннай бібліятэкарцы Іаанне Белаважац.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# На юбілейным кані

Новы год яшчэ не набраў свайго сапраўднага разгону, яшчэ не зацокаў капытамі сваіх дзён, хоць ужо заіскрыўся каляднымі хвілінамі, замільгаў студзенскімі гадзінамі і пачаў пакідаць першыя адзнакі ў летапісе. Паводле ўсходняга гараскопа гэта год Каня. Усё гэта досыць умоўна, хоць астролагі і ўкладаюць нямала сэнсу ў нябесныя зоркі і іншыя свяцілы. Да прадказальнікаў і аракулаў, хоць пераважная бальшыня з іх звычайныя шарлатаны, прыслухоўваюцца і звычайныя абывацелі, аматары сенсацыйных тэлеперадач і прагнозаў і моцныя гэтага свету. Многія з іх, моцных, лічаць самі сябе вяршыцелямі лёсаў. Але далёка не кожны з іх апынецца на кані. А калі і апынецца, то не заўсёды ўтрымаецца. Кожны каляндарны год у свеце адбываецца мноства адметных падзей і падзенняў.

Заглянем зараз у 2014 год з гледзішча беларускіх рэалій і адзнак часу. У сакавіку — 20 гадоў як была прынята, заканадаўча аформлена першая Канстытуцыя суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Канстытуцыя — гэта найвялікшае палітычнае багацце кожнай краіны, наша, аднак, не паспела ўкараніцца, зрабіцца трывалай і непахіснай каштоўнасцю. Ужо праз два гады пасля прыняцця яна была бессаромна згвалчана, зменена, перакручана ў галоўным. І з таго часу па сутнасці страціла сваё вяршэнства ў судовай сістэме краіны.

2014 год стане юбілейным для кіраўніка Беларусі. Мала таго, што яму споўніцца 60 гадоў, 20 год — роўна трацiну свайго веку — Аляксандр Лукашэнка на вяршыні ўлады, кіруе вялікай, прынамсі па тэрыторыі, краінай Еўропы. 20 год правіцель будаваў дзяржаву для сябе і для такіх як ён. І цяпер, як Людовік XIV, можа цвердзіць „дзяржава — гэта я!”. Але ці шчаслівы Аляксандр Рыгоравіч дасягнутым?! Відавочна, што не. Яго няўрымслівая натура не можа змясціцца на 208 тысячах квадратных кіламетраў. Яго прырода прагне адраджэння новага Савецкага Саюза — ад Берасця да Курылаў, безумоўна, з ім — прамяністым і незаменным на чале. Аднак, на шляху да Крамля і кіравання стаіць больш маладзейшы і куды больш уплывовы сапернік. Балівар агульнай мытнай прасторы не вынесе дваіх. Таму ў новым годзе гульні за вяршэнства працягнуцца, а можа і скончацца фатальна.

70 гадоў павінен адзначыць у новым годзе і Зянон Пазьняк, 20 гадоў таму лідар моцнай дэмакратычнай апазіцыйнай плыні — Беларускага народнага фронту, сёння эмігрант. Хочацца спадзявацца, што гэты ідэолаг нацыянальнага руху яшчэ не сказаў свайго апошняга слова і ў палітыцы. На 2014 год прыпадаюць і 80-я ўгодкі Станіслава Шушкевіча, першага кіраўніка нашай незалежнай Рэспублікі Беларусь. Сапраўды, нейкі занадта юбілейны збег дат у новым годзе.

Год „высочайшим повелением” абвешчаны годам гасціннасці, няйначай як у звязку з хакейным чэмпіянатам свету ў Мінску, які адбудзецца ў траўні. Міліцыянты ў беларускай сталіцы ў гэтым месяцы будуць размаўляць па-ангельску, а апошніх апазіцыянераў напэўна будуць біць мякчэй, чым звычайна.

Што прынясе год Каня? Запрэжаную расейскую птицу-тройку, якая нясецца няведама куды і чаго. У тым ліку і па беларускай зямлі. А можа новую Пагоню — на верасень прыпадаюць 500-я ўгодкі бітвы пад Оршай, калі наша войска разграміла маскоўскае. Сённяшняя Літва, якая мае досыць ускоснае дачыненне да гэтай гістарычнай даты, ужо аб’явіла пра яе святкаванне на дзяржаўным роўні. Цікава, як адмахнуцца ад гэтай даты — калі праваслаўны князь Астрожскі пабіў братніх захопнікаў з Усходу — ідэолагі так званай саюзнай дзяржавы? Гэта будзе намнога цяжэй, чым замаўчаць угодкі вызвольнага паўстання 1863 года. Але яны будуць замоўчваць, як замоўчвалі дагэтуль усю гістарычную праўду. А можа гістарычную падзею вытлумачыць новы патрыяршы экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Павел, які найперш пасля прызначэння заявіў, што „ни у кого не возникнет мысли изменить направление, по которому сегодня идет белорусский народ и Белоруссия в целом”. Яшчэ не прыехаў у Беларусь, а ўжо ведае куды мы ідзём...

Усё лятуць і лятуць тыя коні...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Караед пэйсаты



Па словах адной з многіх пакутуючых сярод народа змоўніцкіх тэорый, антысемітызм быў прыдуманы габрэямі. Усе габрэйскія пагромы, тыя ў Польшчы, Беларусі, Украіне, Расіі, — толькі габрэйская прапаганда. Аповеды пра фабрыкі генацыду ў Асвенціме ці Майданку — таксама казка для легкаверных. Немцы — прыстойны народ, які даў свету Бетховена, Гётэ. Гітлер са сваімі ідэалістычнымі мроямі быў толькі выняткам, які пацвярджае моц нямецкамоўнай культуры. Сапраўды гэтак жа, як выключна жорсткі генацыд у Сірыі або Судане даказвае, што гэта не людзі дрэнныя, але вайна паміж імі. Таксама прыстойныя палякі ці беларусы. Нельга абвінавачваць іх у нацыяналістычным шавінізме і пагардзе. Гэта не яны кагосьці, а хтосьці заўсёды іх шарпаў, дзёўб, інтрыгаваў супраць ім. Часам жорстка. У большасці, аднак, таемна, падступна. Непрыкметна і ціха. Як караед, тачыўшы пад карой жывога дрэва. Хай будзе, што караед пэйсаты, сілкуючыся пачуццём калектыўнай віны народаў, якія нібыта патрабавалі яго згвалціць, абдзерлі з годнасці, пакрылі ганьбай, прыніжылі, асудзілі на пекла выгнання і бязмэтных тулянняў. Паразіт, якому не хопіць высмактаць жыццёвыя сокі з іншых нацый, але гэта ён патрабуе ад іх, пакуль усе не счэзнуць, адкуплення за страту дома, працы, дастатняга жыцця. Чалавечага шчасця.

Але я адважуся сказаць, што калі б не было габрэяў, то і так блыталіся б па свеце нейкія так ці інакш пэйсатыя, пузатыя або мулаватыя. Як бы іх не зваў, і яны гэтак жа былі б зненавіджанымі, выкаранены, масава вырэзванымі, жорстка валочанымі на інквізіцыйныя кастры, у газавыя камеры, на шыбеніцы, на пагібель. Таму што свет абжываюць сварлівыя і заўсёды зваадлівыя народы, якія ўжо даўно таму зазлебліся б да смерці, калі б не прыпісаны ім эвалюцыйна нарматыў куратніка. Гэтае правіла заснавана на прарэптыльным атавізме статка, на якім аснаваны паводзіны сённяшніх курэй і... людзей. Яго сутнасць у тым, што моцныя фізічныя асобені праводзяць большую частку часу на дзяўбанні слабейшых, і так аж да дна племяннай іерархіі, дзе самы слабы з іх, не меўшы каго дзяўбці, з запалам дзяўбе корм. Таму імгненна набірае мацаты, але, забыўшыся пра мінулы вопыт, адразу ж пачынае дзяўбці слабейшага. Гэта працягваецца, пакуль не страціць сілы. І зноў жа ўсё пачынаецца з самага пачатку. Так адбываецца ў куратніку, так і адбываецца ў чалавечым свеце, паміж народамі, якія па чарзе адчуваюць перамогі і паразы. Перамогі — за кошт іншых народаў. Паразы — мабыць — з-за габрэяў. А калі не габрэяў, дык нашто яны ёсць? Хоць ні адна з вядомых мне змоўніцкіх тэорый не адказвае выразна на гэтае пытанне, то шмат паказвае на тое, што яны ёсць таму, што пры іх адсутнасці чалавечую цывілізацыю змяла б з Зямлі апакаліптычная, глабальная вайна.

На даны момант усё яшчэ вядзецца ў свеце тая звычайная з’ява, на інтэлектуальным узроўні куратніка — вайна паміж цынізмам і разумовай дэменцыяй. Вайна першасных інстынктаў з бяздумнай дурнотай. Бескампрамісная вайна за выжыванне: туманаў, невукаў, дамарослых філосафаў, псеўдавучоных, апантаных прарокаў, шаленцаў, якія змагаюцца да апошняй кроплі крыві ружжом уласных памылак, перарослых амбіцый, неправераных меркаванняў і мудрасці ўзятых з насценных надпісаў у грамадскіх прыбіральнях... А з кім? Як заўсёды, з габрэямі. Даказаў гэта па-за ўсялякімі разумнымі сумненнямі адзін дакладчык на навуковым семінары, які нядаўна адбыўся ў Нараўцы. Падрабязнасці яго квацістай прамовы прапушчу. Зацікаўленых накіроўваю на You Tube. У любым выпадку семінар датычыў таксама вайны, толькі паміж белавежскай ялінай і яе непрымірымым ворагам караедам-тыпографам. На думку нашага дакладчыка мае ён пэйсаты радавод. Больш за тое, усіх тых, хто абараняе натуральныя правы гэтай казяўкі да яловага лыка — экалагаў, абвінавачвае ў агентурных зносінах з габрэямі. Такіх бліскучых тэорый абвясціў ён больш, чым ашаламіў палову Польшчы. І толькі палову, таму што кожны другі грамадзянін Рэчы Паспалітай пакутуе ад функцыянальнай непісьменнасці, выкарыстоўваючы словы, сэнсу большасці якіх не разумее. Нягледзячы на гэта ўключаецца ў ход ненавісная аповеду, які цягнецца як соплі з носа, як вада з пысы балбатуна. Ад вякоў і, верагодна, да канца свету, габрэі ўсяму вінаватыя! Вось такі чарвяк свідруе ў кары галаўнога мозгу неабавязкова толькі паловы жыхароў Польшчы. А, можа, таксама і ў паловы насельніцтва свету. Або і больш.

**Міраслаў ГРЫКА**



*Вачыма еўрапейца*

# З Новым годам

Кожны пералом года схіляе да развагі, які быў той, што мінуў, і той, які будзе. За апошнія святочныя дні Раства я пераглядзеў усе нумары «Нівы» 2013 года, якой у гэтым годзе — у сувязі з ашчаднасцямі ў паасобных ведамствах, якія загадаў ужо былы міністр фінансаў Яцак Растоўскі — Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі скараціла датацыю аж на больш чым 21 тысячу злотых. Несумненна, мінулы год прайшоў у цені жалобы пасля смерці двух вялікіх дзеячаў не толькі для беларусаў: Сакрата Яновіча (памёр 17 лютага ва ўзросце 76 гадоў) і Георгія Валкавыцкага (памёр 7 красавіка ва ўзросце 90 гадоў). Без іх, несумненна, беларускі свет назаўсёды будзе іншы. 80-годдзе з дня нараджэння і 15-годдзе з дня смерці Мікалая Гайдука, у сваю чаргу, сталі ў мінулым годзе падставай для больш шырокага прадстаўлення літаратурнай, журналісцкай і грамадскай дзейнасці і ўвогуле ўсяго жыццёвага шляху Мікалая Гайдука. Гэта сталася дзякуючы, між іншым, Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку. Беластоцкія радныя з Форуму меншасцей Падляшша справіліся з задачай і перакаnалі ўсю Гарадскую раду, каб яго імя прысвоіць адной з вуліц Беластока. А адно скрыжаванне з кругавым рухам па іх інспірацыі атрымала імя трагічна загінуўшага ў авіякатастрофе пад Смаленскам праваслаўнага ардынарыя Войска Польскага, архіепіскапа Мірана. Некалькімі месяцамі раней выдатны кампазітар беларускага паходжання Ян Тарасевіч стаў патронам адной з вуліц у сталіцы Падляшскага ваяводства. Варта аб такіх сімвалічных жэстах (а таксама аб іншых, неабавязкова спрыяльных беларускаму асяроддзю) памятаць у толькі што пачынаючымся годзе — годзе самаўрадавых выбараў, якія адбудуцца восенню. Два значныя ў беларускім асяроддзі (і не толькі) мерапрыемствы: «Трыялог» у Крынках і фестываль «Басовішча» атрымалі ў мінулым годзе новую формулу. «Трыялог», пасля смерці яго заснавальніка Сакрата Яновіча ад чыста літаратурнага мерапрыемства стаў агорай агульнамастацкіх і грамадска-палітычных дыскусій. Без Сакрата Яновіча мусіў ён змяніцца, або павінен перастаць быць арганізаваны. На самой справе, у якім напрамку ён накіруецца, акажацца сёлета, калі Трыялог ужо не будзе ўжо ў асноўным прысвечаны памяці аўтара «Сярэбранага ездака». «Басовішча» таксама пачало ў мінулым годзе пашыраць сваю формулу на выяўленчае мастацтва, кіно ці квазі-тэатральныя дзеянні. У абодвух выпадках адбываецца гэта таму, што арганізатарам гэтых падзей быў Фонд «Віла Сакрата», за які я трымаю кулачкі і ў гэтым годзе. Фонд быў таксама свайго роду саўдзельнікам несумненна мастацкай падзеі 2013 года — падрыхтоўкі Беластоцкім драматычным тэатрам імя Аляксандра Вянгеркі «Антыгоны» са сцэнаграфіяй Лявона Тарасэвіча (сцэнічны дэбют). Прэм’ерны паказ адбыўся на плошчы Яна Паўла II (таго папы, які часта ўспамінаў аб двух лёгкіх Еўропы — усходнім і заходнім хрысціянстве) насупраць каталіцкай кафедры ў Беластоку. Аднак падзеяй з сапраўды еўрапейскім маштабам быў дапрэм’ерны паказ «Антыгоны» на плошчы ў Крынках. Беларускі саюз у Польшчы і Праграмная рада нашага штотыднёвіка некалькі дзён таму заявілі гэты спектакль да штогадовай мастацкай прэміі прэзідэнта горада Беластока. Дарэчы, у конкурсе за прэзідэнцкую літаратурную прэмію імя Веслава Казанецкага змагацца будуць нашы рэдакцыйныя калегі Ганна Кандрацюк са зборнікам рэпартажаў «Białoruś. Miłość i marazm» і Міраслава Лукша са зборнікам апавяданняў «Życie pozagrobowe i inne».

Цікавым і перспектыўным мерапрыемствам у Беластоку ў 2013 годзе было першае выданне фестывалю «Усход культуры. Іншае вымярэнне», на працягу якога беларуская культура фактычна была прадстаўлена ў шматлікіх вымярэннях. Ён надалей павінен стаць месцам, каб паказаць сумесна рэалізаваныя новыя мастацкія праекты, у выпадку Беластока ў першую чаргу польска-беларускія. Адной з беларускіх падзей у «Вянгерку», якія нас чакаюць, будзе прэзентацыя ў сакавіку «Дзядоў» паводле Адама Міцкевіча ў рэалізацыі новага мінскага тэатра «Чэ» Андрэя Чорнага. Як ужо вызначаюць гэты спектакль беларускія незалежныя крытыкі, ён — «нараджэнне новай легенды ў гісторыі беларускага тэатра». Гэта поўнасцю беларускае бачанне драмы польска-літоўска-беларускага класіка.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Берасцеец з Канюкоў



Уладзімір Данілюк трымае работу свайго цёзкі з Канюкоў

Было гэта такое дзіўнае перапляценне падзей.

У Канюках **Уладзімір Наумюк**, рэзчык па дрэве, шмат распавядаў пра каваля Мітрафана. З Мітрафанам ён быў паяднаны агульнай цягай да прыгожага і праводзіў у кузні гадзіны і дні. Мітрафан рана памёр — у 1942 годзе, ва ўзросце 40 год, таму Наумюк у каваляператварыцца не паспеў, а стаў вядомым народным скульптарам.

Гэта была адна з ліній аповеду Уладзіміра пра сваё маленства і прыход да прафесіі. Закончыўшы яе, ён перайшоў да іншых ліній, лёсаў і развагі.

А пасля, за гарбатай, зноў вярнуўся да Мітрафана. Дакладней, да яго сына, цёзкі Наумюка. Як аказалася, Уладзімір Мітрафанавіч жыве ў Берасці, і яны, два Валодзі, як былі калісьці сябрамі, дык імі і засталіся, нават нягледзячы на дзяржаўную мяжу. „Перадавайце яму прывітанне", — прасілі Наумюкі. І на развітанне далі тэлефон беластоцкага берасцейца.

## Чэмпіён

Тэлефон аказаўся неактуальным. Добра, што перапісала заадно і адрас, таму ў гарадской даведцы ўсё ж удалося здабыць нумар **Уладзіміра Данілюка**. На шчасце, той аказаўся жывы і здаровы, і бадзёрым голасам падзякаваў за прывітанне. Даведаўшыся, што я журналіст, запрасіў у госці і паабяцаў, што яму знойдзецца што цікавага расказаць. У гэтым ніхто і не сумняваўся — людзям за 80 заўсёды ёсць што расказаць.

Ён сустрэў мяне на прыпынку — бадзёры мужычок, якога назваць дзедам, язык не паварочваецца хоць дзед і ёсць, калі меркаваць па тым, што даўно мае ўнукаў. Да знешнасці добра пасуе і зухаватасць характару — толькі паспявай лавіць яго думкі, што пераскокваюць з аднаго на другое. „У жыцці столькі ўсяго цікавага! І пра ўсё хочацца расказаць", — патлумачыў сваю паспешлівасць былы лёгкаатлетычны чэмпіён і выкладчык фізічнай культуры.

Ён прывёў мяне ў сваю кватэру, дзе жыве адзін. Гэта аніяк не тыповае халасцяцкае жытло — усюды ідэальны парадак, на паліцах усялякія памятныя дробязі, на сценах іконы. Уладзімір Мітрафанавіч не тыповы бедны беларускі пенсіянер таксама. Запасы добрага алкаголю, кавы, шакаладак і ўвогуле поўная лядоўня ежы паказваюць на дабрабыт гаспадара. Адразу пазнаю чалавека, які зведаў галоднае дзяцінства і ведае, „што ніхто нічога проста так не дасць".

— Нельга сядзець на месцы, трэба рухацца. Я заўсёды вучыў гэтаму сваіх вучаніц. І цяпер вучу, калі сустракаю іх. Вось адну сустрэў, пытаю, як справы. Кажа, што на пенсіі, пенсія маленькая. Дык трэба ж працу нейкую знайсці, круціцца неяк, — кажу ёй.

## Канюкі і Відава

З гэтымі дзвюма вёскамі на Беласточчыне і звязана маленства Уладзіміра Данілюка. З Канюкоў паходзіць яго бацька, а з Відава ля Бельска — маці. Жыла маладая сям'я ў Канюках, кармілася выключна кавальствам галавы сям'і, якое прыносіла стабільны хлеб.

Але пасля тое кавальства чамусьці карміць перастала. Чаму — Уладзімір Мітрафанавіч згадаць дакладна не можа, толькі памятае, што прыходзілася яму жабраваць у Козліках, а пасля наймацца пастушком. Маці з двума дзяцьмі часта з'язджала да сваёй радні ў Відава, якая жыла багацей. А перад вайной 1941 г. уладкавалася ў нейкі авіяполк кухаркай. Там іх і заспела нямецка-савецкая вайна, прымусіўшы разам з палком адступаць ажно да Зэльвы.

На тэрыторыі сучаснай Беларусі яны атабарыліся крыху пазней, а тады, у 1941 годзе, пешшу вярталіся ў Беласток. Немцы вучылі іх ісці толькі днём, бо ноччу могуць „шыссэн" — страляць. Так яны і ішлі. Уладзімір перыядычна падыходзіў да немцаў і прасіў есці.



Партрэт маці. Канюкі. 1938 год

А ў Канюках заставаўся невылечна хворы бацька. Уладзімір нават прыгадвае, што той з'еў свайго сабаку, паверыўшы ў прымху, што сабачае мяса дапаможа ад сухотаў. Не дапамагло.

З яркіх дзіцячых успамінаў Данілюк яшчэ прыгадвае, як бабка падсылала яго карміць ваеннапалонных. Недзе непадалёк знаходзіўся лагер, і ваеннапалонных адпраўлялі на торфаздабычу. Задачай малога Валодзі было прыйсці туды да пачатку працоўнага дня і падкласці ежу пад нейкі корч, каб немцы яе не заўважылі.

## Бабруйск

Абяздоленую ўдавіцу з двума дзецьмі на руках, з малым кавалкам неўрадлівай зямлі, з крытай саломай хатай без падлогі савецкім агітатарам было лёгка ўгаварыць перазяджаць у СССР. Валодзя ехаць не хацеў і ўцёк да бельскай радні. Туды па яго прыйшлі чэкісты з аўтаматамі.

Прывезлі іх на цягніку ў Бабруйск. Калі — дакладна Уладзімір Мітрафанавіч не памятае, але яму здаецца, што вайна яшчэ канчаткова не скончылася. Навабранцаў прыехалі на падводах сустракаць калгаснікі. „Адна кабыла была такая худая, што толькі рэбры тырчэлі", — першы ўспамін пра новае месца жыхарства. Пасялілі ў чужой хаце, дзе ўсе нібыта загінулі на вайне. Але неўзабаве з фронту вярнуўся паранены гаспадар і выгнаў чужынцаў.

Бабруйск не пакінуў у памяці Уладзіміра Данілюка нейкіх добрых успамінаў. Яны жылі там да 1947 года — у самыя галодныя пасляваенныя гады. Прычым нейкі час мясціліся нават у школьнай прыбіральні, засыпаўшы смярдзючую яму пяском. Пасля ім выдзелілі куханьку ў нейкім доме, але новае месца адзначылася новай няўдачай — іх абакралі. Забралі грошы, залатыя зубы маці, іконы — усё, што мела каштоўнасць і звязвала з мінулым жыццём.

Прадпрымальны хлопец ужо тады навучыўся не сядзець склаўшы рукі. Ён перапрадае аб'едкі з ваеннай сталовай, збывае газеты і часопісы, якія яму па вялікай сімпатыі дае адзін з ваенных. Але лавачка хутка прыкрылася — Уладзіміра з тымі часопісамі злавілі чэкісты, і ваенны іх яму ўжо больш не даваў.

Голад стаў настолькі дакучаць сям'і, што яна адважваецца вяртацца дадому.

## Камянец — Берасце

Заўважце, нічога не кажу пра старэйшага брата Уладзіміра, бо ён і сапраўды знік са сцэны. Раней за астатніх членаў сям'і падлетак зразумеў, куды ён трапіў, і вырашыў бегчы дадому. Збегчы збег — перайшоў мяжу без асаблівых праблем, але польскія памежнікі ўсё адно злавілі яго соннага ў жыце. Дакументаў пры ім не было — іх доўга не выдавалі беластоцкім беларусам, паралізаваўшы такім чынам перамяшчэнне па краіне, — таму палякі перадаюць яго саветам, а тыя асуджаюць на 2 гады высылкі ў Хабараўск. А за патасоўку з міліцыянтам пакаранне павялічылася да 3 год, з высылкай на востраў Сахалін.

Валодзя і маці не ведалі, што з ім здарылася, і пабачылі яго ўпершыню толькі праз тры гады, калі той прыехаў іх наведаць. Ён ніколі не перазяджаў з Сахаліна, там завёў сям'ю і там памёр. Больш нічога Уладзімір Мітрафанавіч пра брата не расказвае — нават імені не называе. Тлумачыць: „У нас мала было агульнага. Ён моцна піў".

Так што маці з Валодзем спрабавала вярнуцца на Беласточчыну без другога сына. З Бабруйска яны паехалі ў Менск, да ўрада, з просьбай, каб ім выдалі хоць нейкія дакументы. Нічога не атрымаўшы, рушылі адразу на мяжу — у Берасце. Вядома, іх ніхто не прапусціў, але затое маці знайшла тут знаёмага, які паведаміў, што матчын дзядзька працуе ў Камянцы ажно старшынёй райвыканкама. Стары партыец аказаўся сумленным і добрым чалавекам, добра сустрэў і дапамог з жыллём.



У Канюках з пляменніцамі.1964 год

З таго часу галеча трохі адступіла. Валодзя паступіў у вучэльню чыгуначнікаў у Берасці, атрымліваў стыпендыю. Маці некаторы час заставалася ў Камянцы, але неўзабаве пераехала да сына, прычынай чаму вялікая няўдача ў асабістым жыцці. Так і жылі разам, нават калі Уладзімір ажаніўся да яго заўсёды дзяцей. Праўда, у рэшце рэшт за яго спартовыя заслугі яму выдалі трохпакаёвую кватэру. Не адразу — спачатку далі адзін пакой, пасля другі і толькі праз нейкія гады перасталі ў гэтую кватэру падсяляць чужых людзей. Так і ўзгадвае цца кватэра прафесара Праабражэнскага з „Сабачага сэрца" Міхаіла Булгакава.

## Гасцяванне дома

Упершыню наведаць бацькаўшчыну Уладзіміру Данілюку, тады ўжо паважанаму выкладчыку і трэнеру, дазволілі ў 1963 годзе. „Трэба было запоўніць анкету, прынесці характарыстыку і ўвогуле кіпу папер сабраць", — згадвае ён тыя часы.

Дазвалялі ездзіць толькі раз на год, на 15 дзён. Гэтым правам ён штогод і карыстаўся, пасля нават ухітрыўся ездзіць два разы на год. Афармлялася гэта так — адзін раз дзеля наведвання радні, другі раз на могілкі. Аднойчы ўдалося нават падмануць дзяржаву з 15-дзённым тэрмінам прабывання — знаёмая жанчына (з якой, я падазраю, зух закруціў раман) здабыла яму медыцынскую даведку, што ён нібыта захварэў. Такім чынам прабыў у Польшчы на два дні больш адпушчанага.

Прыгадвае наш герой, што даводзілася дапамагаць беластоцкай радні, бо тая жыла значна горш за яго. „Калі я першы раз прыехаў, у іх нават электрычнасці не было. Такая бедната. На саломе спалі, зубамі чухаліся, як кажуць. Вёз ім усё, цэлы чамадан, і пасылкі стараўся адпраўляць. Пасля яны сталі жыць лепей, і ўжо я тое-сёе ад іх прывозіў. Цяпер жа мы цягнем з Польшчы ўсё, што можна", — кажа Уладзімір.

Сустракалі нязменна цёпла, ды і сустракаюць дагэтуль, хоць радні за гэты час значна паменшылася. Засталіся стрыечныя сёстры ды сябар — Уладзімір Наумюк.

## Тыповасць сітуацыі

Такіх сямей, як Данілюкі — падманутых савецкай прапагандай, у Беларусі даволі шмат. І не толькі ў Беларусі. Сам Данілюк расказвае, што з імі ў Саветы падалася старэйшая сястра маці з сям'ёй, хоць яна досыць добра гаспадарыла ў Бельску. Яны паехалі на Украіну, і павярнулі назад, як толькі разгледзелі, куды іх прывезлі. Але іх, гэтак жа як і Данілюкоў, назад ужо не пусцілі. Гаротныя, хлебанулі гора, пакуль зажылі больш-менш па-чалавечы ў Львове.

Што да Уладзіміра Мітрафанавіча, то гэты жыццярадасны чалавек ніколькі не шкадуе, што маці ў свой час прыняла даволі недальнабачнае рашэнне. Ён з задавальненнем вяртаецца на родную Беласточчыну, але сапраўдны дом яго цяпер у Берасці, дзе жывуць дзеці і ўнукі.



Малады Данілюк наршчэ прыехаў на радзіму. 1966 год

Зрэшты, ён пазбаўлены вялікай настальгіі па малой радзіме яшчэ і таму, што можа ў любы момант выбрацца туды на сваёй „Аўдзі", з якой не расстаецца і ў свае 82 гады. Паездзіць па гасцях, а на зваротнай дарозе затаварыцца ў „Бядронцы", каб пасля яшчэ нешта перапрадаць. Патрэбу „круціцца" на дзевятым дзесятку ён сабе не адмяняў.

Шчыра зайздрошчу яго энергіі.

**Іна ХОМІЧ, Берасце**

## Шчодры вечар

*Шчодры вечар, шчодры вечар,*
*Ты існуеш ад прадвечча,*
*Штогод ідзеш к нам паваротна,*
*Жыць нам будзеш несмяротна.*

*Сілай Божай як найшчырай*
*За пажытае падзяка,*
*Што дарылі столькі сілы*
*Міру, хлеба за дастатак.*

*Шчодры вечар, шчодры вечар*
*І дарослым, і ўсім дзецям,*
*Хай заўсёды сонца свеціць*
*І зімою, і ў лецe.*

*А калі це спатыкаем,*
*Свету радасці жадаем,*
*А здароўя блізкім, родным,*
*І шчаслівых дзён пагодных.*

*Новы годзік нам прыносіш*
*І багатае пасаг.*
*Шчырую малітву ўзносім*
*З Новым годам — за яднанне!*

***Анатоль ПАРЭМБСКІ***

## Урэшце дачакаліся...

У Чаромхаўскай гміне да гэтай пары два салэцтвы не карысталіся водаправодам: прыгранічная Апака-Вялікая і Пагулянка. Жыхары і солтысы ад даўжэйшага часу хадайнічалі аб падключэнні сваіх вёсак да гміннай водаправоднай сеткі, але сціплы самаўрадавы бюджэт не дазваляў рэалізаваць задачу.

19 ліпеня мінулага года гміна падпісала дамову з Раённым саюзам водных суполак у Сямятычах на рэалізацыю праекта „Будова водаправоднай і каналізацыйнай інфраструктуры на тэрыторыі гміны Чаромха". Праект атрымаў фінансавую дапамогу. У рамках задачы будзе збудавана больш за 7 тысяч метраў каналізацыйнай і 8 тысяч метраў водаправоднай сетак. Каналізацыяй пакарыстаюцца жыхары вуліц Ставіскай, Ліповай, Фабрычнай, Бочнай, Васнёвай, Доўгай, Тапалёвай, Новай і Вейскай у Чаромсе, а водаправод будзе пракладзены ў салэцтва Апака-Вялікая і Пагулянка. Заканчэнне рэалізацыі задачы прадбачаецца на ліпень 2014 г. Працы вядуцца ў адпаведнасці з графікам. Водаправодная сетка пракладзена ўжо ў прыгранічныя вёскі. Падключэнне да паасобных гаспадарак належыць да абавязкаў уладальніка сядзібы і робіцца на яго кошт. Лічыльнік вады пастаўляе гміна бясплатна.

## Добры прыклад

Паколькі чыгунка абмежавала рух цягнікоў на лініі Чаромха — Беласток і Чаромха — Гайнаўка, дык многія чарамшане пачалі карыстацца аўтобусным транспартам. Зараз у сталіцу ваяводства можна дабрацца аўтобусамі фірм „Arriva" — а 6:43 і „Voyager" — праз Гайнаўку — а 5:07, 9:42 і 11:32 з панядзелка да пятніцы, а ў нядзелі і святочныя дні адпаведна ў 13:52, 16:32 і дадаткова ў пятніцу ў 20:12. Праблемай як у дарожным, так і чыгуначным транспарце з'яўляюцца пачакальні. На прыпынках пасажырам летам няма дзе схавацца ад дажджу, а зімою — ад снежнай завірухі. Чыгунка свае пачакальні разбурае па эканамічных прычынах, а аўтобусныя фірмы не спяшаюцца будаваць новых. Аб паветцы на прыпынку ў Чаромсе на вуліцы 1 Мая хадайнічаў радны Вячаслаў Барташэвіч. Гмінны самаўрад выйшаў насустрач жаданню жыхароў і ў мінулым годзе здаў у карыстанне новую паветку з дашкам на вуліцы 1 Мая ў канцы пасёлка, едучы ў напрамку вёскі Чаромхі. Добры гэта прыклад, годны пераймання перавозчыкамі.

**(ус)**

# Бенефіс Надзеі Азяблы

Дарагая бабуля **Надзея Азябла** атрымала заслужаную бессмяротнасць. Яе жыццярадаснасць, спакойны голас і ветлівую ўсмешку ўвекавечыў на фільмавай стужцы родны ўнук Павел. Вядомы гітарыст, удзельнік і партнёр шматлікіх, у асноўным, музычных праектаў, ніколі раней не займаўся фільмам. Мабыць, з моцнай любові да бабулі адважыўся на свой першы, рэжысёрскі крок. Яго інспірацыяй стаў дакумент Тамаша Віснеўскага пра міхалоўскі струнны аркестр. Гэты фільм таксама быў прысвечаны бабулі Надзі. Шмат часу і працы каштавала Паўла сутыкненне з новай формай мастацкай экспрэсіі. Дадатковым ускладненнем была тэма фільма — вельмі блізкая асоба.


Гераіня вечарыны Надзея Азябла

— Мабыць, найцяжэй фільмавац роднага чалавека, але маёй бабулі сапраўды ёсць пра што расказаць, яе аповед выслухаў я з вялікай прыемнасцю, — прызнаўся малады рэжысёр. — Спадзяюся, што гэты больш за дваццаціхвілінны фільмавы дэбют добра будзе ўспрыняты гледачамі.

Сцэнарый можна напісаць на аснове жыцця любога чалавека. Немагчыма толькі абняць усяго, тым больш калі і гадоў, і досведу больш за дзевяноста вялікіх мяшкоў. Фільмавы праект Паўла ўзнік на канве грамадска-культурнай, а дакладней тэатральнай дзейнасці любімай бабулі. Гэта асабліва хвалюючая падзяка жанчыне, якой заўсёды найважнейшым было дабро і шчасце другога чалавека.

«Тут я нарадзілася, тут вырасла», — пачынаецца фільмавы аповед Надзеі Азяблы. Ён сплецены з вывай роднай хаты ў Пяньках і з поўнай настрою балалайкай Галены Пухальскай. Далікатны акампанемент гітары аўтара фільма падтрымлівае развіццё асноўнага сюжэту-расказу пра тэатр — прыгоду жыцця гераіні. Паяўляецца і каханы муж Янка — сапраўдны сябра і партнёр у беларускай, культурна-грамадскай дзейнасці. Тут ён выкліканы добрым успамінам і архіўным фотаздымкам, на якім застаўся назаўсёды вясёлым і прыгожым. Невялікі дакумент завяршаецца ўспамінам пра пісьменніка з Крынак — Сакрата Яновіча, малодшага калегу і супрацоўніка Янкі. Паводле слоў спадарыні Надзі, малады беларускі дзеяч не заўсёды быў справядліва ацэньваны ўладамі ўсёмагутнага БГКТ. У цяжкіх хвілінах Сакрат заўсёды карыстаўся падтрымкай старэйшага калегі. У лісце, накіраваным спадарыні Надзі з нагоды смерці мужа, пісьменнік з Крынак назваў Янку сваім настаўнікам, сябрам і бацькам. Павел марыў, каб Сакрат асабіста прачытаў яму напісаны калісь у гонар дзеда ліст. Не паспеў.


Ілона Карпюк спявала пад акампанемент Пятра і Паўла Азяблаў

Памяці Янкі Азяблы і Сакрата Яновіча была прысвечана адна з песень, якая прагучала на снежаньскім бенефісе Надзеі Азяблы. Яе выканала Ілона Карпюк пад акампанемент надзвычай таленавітых унукаў спадарыні Надзі — Пятра і Паўла Азяблаў. Гаспадаром вечарыны была славутая незвычайнымі ідэямі Майстэрня фільма, гуку і фатаграфіі Тамаша Віснеўскага ў Міхалове. Шукальнік талентаў спадар Віснеўскі высока ацаніў працавітасць свайго вучня Паўла, а таксама яго жаданне зрабіць нешта для захавання памяці продкаў. «Мы ўсе павінны ствараць фільмы пра нашых бабуль і дзядоў», — загадаў сабраным.


Гаспадар вечарыны Тамаш Віснеўскі (справа)

Надта цікавай і павучальнай была таксама дыскусія з гераіняй вечара, праведзеная Тамашом Віснеўскім. Спадарыня Надзя падкрэсліла, што ў культурна-грамадскай працы найважнейшым з'яўляецца давер. Людзей трэба нечым карысным зацікавіць, а потым крыху дапамагчы ў іх самаздзяйсненні і разуменні, што ў жыцці сапраўды важнае. Калісь гэта давалася дастаткова лёгка. Ва ўспаміны аб часах тэатральнай актыўнасці спадарыні Надзі ўключыліся таксама прысутныя на спатканні нашчадкі яе выхаванцаў. «Мая мама, Люба Ваўранюк, калісь выступала ў гэтым тэатры, — прызнаецца спадарыня Варвара. — Вельмі цёпла ўспаміналa гады, праведзеныя ў пяньkoўскім гуртку. Гэта было адзінае акно на свет для вясковай моладзі».

Больш за дзевяноста пражытых гадоў зусім не стаміла нашую гераіню. Надалей не ўяўляе яна сабе свету без творчасці, без штодзённых удараў бубнаў ці гукаў струн электрычнай гітары родных унукаў. «Гэта і ёсць сапраўднае жыццё», — падсумоўвае бабуля.

Доўгай была чарга жадаючых асабіста павіншаваць Надзею Азяблу і падзякаваць ёй. Сярод іх была шматлікая радня, сябры і знаёмыя з Міхалова, а таксама культурныя дзеячы з розных куткоў нашага ваяводства. Няхай заўсёды маладая душой спадарыня Надзя служыць нам сваёй асаблівай мудрасцю і дабратой яшчэ многія, многія леты.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Злева: Уршуля, Каліска — дачка Ганны, Юстына і Ганна

# Макаўскія бярозкі

**Ганна, Уршуля і Юстына. Тры сёстры. Дочкі Міраіды і Валянціна Садоўскіх з Макаўкі. Унучкі Веры Дамань, слаўнай беларускай спявачкі. Ці падобныя да сябе?**

„Зусім не! — кажуць хорам. — Часам пытаюцца ў нас, ці мы сапраўды родныя сёстры". Калі пачалі спяваць? А спяваюць недзе ад 15 гадоў. Амбасадаркі Нарваўскай гміны на ўсю Польшчу!

— Калі нам было 12-13 гадоў, — прызнаецца Уля Парук. — Гэта ўжо на сцэне. А ў хаце — ад малога. Як мама спявала, то і мы спявалі. І бабуля.

— Мы з мамай мелі такую гульню, — прыгадвае Ганна Пятроўская. — Мама заспявае адзін радок з песні, а мы адгадвалі, што гэта за песня. Вядома, мы часам прайгравалі, бо мама ж ведала вельмі многа песень. Але ўжо той штуршок, каб вывучаць фальклор, мы ўжо мелі з хаты. У Нарваўскім прыходзе мы не спявалі, але выступілі на Гайнаўскіх днях царкоўнай музыкі, праўда, без поспеху, але гэта не самае галоўнае.

Малодшыя дзяўчаты ў школьныя гады спявалі ў калектыве „Пронар". Сталі спяваць са старэйшай сястрой Аняй, і так узнікла сямейнае трыо. Памятаецца першы выступ на фестывалі „Беларуская песня" ў Беластоку, у Гарнізонным клубе, пасля ў спартзале „Влукняж", ужо на гала-канцэрце. Цяпер у сукенках, якія атрымалі дзякуючы Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, якое спансаравала касцюмы, пашытыя ў мінскай фабрыцы „Эладэя", але па іхнім праекце.

— Заехалі мы ў Мінск, — прыгадвае Юстына Садоўская, — паказалі нам былі строі, але яны нам не былі даспадобы. Мы нарысавалі свае ўзоры, аздобы, і паводле іх нам гэтыя строі пашылі.

— Мы хацелі, каб гэта быў лён, — удакладняе Ганна. — Наш фальклор аўтэнтычны, хаця апрацаваны, і мы хацелі, каб гэта сувязь з народам была. А вядома, калісьці нашы бабулькі і дзяды ў льняным адзенні хадзілі.

Пабачыць дзяўчат можна на аглядах беларускай песні, аглядах калядных песень, на фестывалях музыкуючых сем'яў, народнай музыкі „Даўнія песні — маладыя галасы".

— На гэтым апошнім фэсце, у Ваневе, нам вельмі падабалася! — цешыцца Уля. — Здабылі мы першае месца, як паехалі мы першы раз, праз два гады мелі другое. Тады не было Ані, заспявалі мы тады ў дзве. З мамай выступалі мы толькі раз, на сустрэчах музыкуючых сем'яў у Саколцы. Тата ў нас не спявае, але вельмі любіць родную песню. І бабуля Вера была пявунняй!

— А калі гаворка пра наймалодшае наша пакаленне, — прадстаўляе Ганна, — дык Каліска пачынае ўжо ад калыханак. На нашым дыску ёсць таксама яе калыханка, „Хадзіў бусел па балоце". Гэтую калыханку я запісала ад Надзеі Сахарчук з Маліннік. Сярод сямейных спевакоў, сярод сем'яў, якія іграюць на інструментах, а мы спяваем а капэла, у дадатку па-беларуску, здабывалі мы першыя месцы. Гэта прыносіць нам задавальненне, а таксама вялікую радасць, што людзям падабаецца тое, што мы робім.

— Ці запросім да спявання дзяцей, як падрастуць? Вядома, Аня ўжо ад малой сваю Каліску запрашае, Дар'ю, — хваліцца Юстына.

— Цяпер маем яшчэ найменшую пляменніцу — дачушку Улі, Юльку, ужо „спявае", а як падрасце, напэўна далучыцца. А так сур'ёзна — спадзяёмся, што нашы дзеці навучацца ігры на інструментах і будуць нам падыгрываць. Я сур'ёзна думаю, каб мы крыху больш заняліся царкоўнай музыкай, каб нам запісаць некалькі твораў царкоўнай музыкі. Хацелі б мы таксама спрабаваць чагосьці новага, можа, песень пад фанаграму. Але прыярытэтам застаецца для нас спеў а капэла. Гэты песні найбліжэйшыя нашаму сэрцу. На пачатку было так, што я спявала асобна, дзяўчаты спявалі асобна ў іншых калектывах. А потым так атрымалася, што нашыя калегі, якія з намі спявалі, не маглі далей спяваць. І мы вырашылі: давайце паспрабуем разам. І нам гэта спадабалася. І мы тады падзяліліся на галасы і вырашылі, што будзем спяваць супольна, як сям'я. Таму што сям'ёю лепш арганізоўваць рэпетыцыі, у сям'і можна накрычаць — яны не пакрыўдзяцца на цябе, бо гэта твае сёстры, твая сям'я. Спачатку ў мяне быў хор „Ікос". Гэты хор дзейнічаў пры Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку і выконваў царкоўную музыку. Вяла гэты хор Марта Врублеўская, якая нас моцна трымала і добра вучыла спяваць і захапляцца гэтай музыкай. У гайнаўскім белліцэі я спявала ў „Знічцы". Захапленне беларускай музыкай, фальклорам давяло да ўдзелу ў фестывалі беларускай песні. А з сёстрамі мы „падзяліліся галасамі" натуральна. Песні, з якімі нас знаёміла мама ў дзяцінстве, сама яна мела ад сваёй мамы — нашай бабці Веры, і гэта яны прышчапілі ў нас любоў да роднай песні. На нашым дыску часць песень, якія мы ведаем ад мамы, ад бабці Веры, часць ад спявачак з Беларусі, якіх навучыліся мы ў час фальклорных фестываляў. На дыску апынуліся таксама дзве песні, якія спецыяльна падрыхтавалі на фестываль аўтарскай песні „Бардаўская восень". На дыску „А ў полі бероза" ўсе песні беларускія: „А ў полі бероза", „Ляцела зязюля", „Лебядзін мой", „Як сова, сова", „Капаў казак", „А ў полі вярба", „Восень", „Ой па мору", „Дзве таполі", „Роздумы", „Гаворка беларуская", „Ой, гыля", „Хадзіў бусел" і „Чырвоная вішня", таму што беларуская мова нам асабліва блізкая. У нашым рэпертуары маем таксама песні палескія, украінскія, крыху рускіх. Украінскай песні навучыліся на фестывалі „Падляшская крыніца" — запала нам у вуха, мы яе развучылі. Таксама ведаю іх ад майго мужа, які родам з Украіны, — кажа Ганна Пятроўская.

Пра кружэлку падумалі зусім нядаўна. Любілі проста спяваць, ездзілі на выступленні куды іх запрашалі. Усе слухачы захапляліся іх спевам а капэла, цікавіліся, адкуль яны, гэтыя незвычайныя красуні з цудоўнымі галасамі. А яны распавядаюць пра сваю Макаўку, пра Нарваўскую гміну...

— Раз назвалі нас „Сямейнае трыо «Макаўка»" з Макаўкі. З найбольш сур'ёзных фестываляў я б назвала міжнародны фестываль музыкуючых сем'яў „Фамілія" ў Тчэве каля Гданьска. Выступалі таксама на фестывалі сямейнай музыкі ў Лясьневе, ва Вроцлаве, у Алаве, у Добрым Месце, — пералічвае Ганна Пятроўская.

— А як вас успрымала міжнародная аўдыторыя, калі вы спявалі на беларускай мове?

— Часам людзі не разумелі слоў. У Лясьневе, дзе арганізатарам агляду быў манастыр айцоў паўлінаў, у першы момант наша выступленне выклікала збянтэжанасць, але людзям падабалася. Спадабалася ім адна песня, песня для Лясьнеўскай Багамаці, якую мы спявалі, але таксама на тры галасы. У Лясьневе мы спявалі таксама царкоўны рэпертуар, бо там ставіўся націск на сакральную песню.

Такія выезды — таксама нагода пазнаёміцца з новымі песнямі, пашырыць свой рэпертуар і азнаёміць іншых з беларускай песняй. Калектывы ахвотна бяруць песні іншых спевакоў у свой рэпертуар. „Мы песні перарабляем на а капэла, а яны — пад інструмент", — кажуць дзяўчаты.

Сцяпан Копа, музыколаг і збіральнік фальклору:

— Дзяўчаты робяць вялікую работу, непаўторную! Хачу падзяліцца некаторымі сваімі заўвагамі наконт выступлення гэтых цудоўных дзяўчат. З імі самімі знаёмства не такое даўняе. Я працаваў галоўным інструктарам у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры ў Беластоку, і акурат гэтыя цудоўныя дзяўчаткі вызджалі на сямейныя музыкаванні з этнічнай песняй. Заўсёды займалі там яны першае месца, сярод пару дзесяткаў удзельнікаў. Ва Вроцлаве былі адкрыццём. Я думаў, як тут абдарыць дзяўчат. Песень ёсць шмат, але хацелася, каб дасталі бы іх ад вашай бабці Веры Дамань. Я адшукаў плёнку, на якую я запісаў песні ў яе выкананні, у 1998 годзе, 22 студзеня, і там ёсць мнагавата песень. Праслухаў тое што ўдалося мне запісаць. Марыя Кузьма там спявае моцным альтам, а ваша бабця спявала сапрана, найчасцей актаву вышэй, тоненькім. Я выбраў пяць песень, запісаў музыку, запісаў словы, скапіраваў плёнку. Ёсць тут песні вясельныя, хрысцінныя... Запісаны яны цяпер на мацнейшай плёнцы, каб у вашай дакументацыі засталося. Можа яшчэ выбераце штосьці з іх у свой рэпертуар...

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Горад дапамагае птушкам

Зараз у парку на Плянтах ды на скверах у Беластоку паставілі сорак двух'ярусных кармушак для птушак, якія застаюцца ў нас на зіму, між іншым, для сініц, валасянак (мухаловак) і сычоў.

Птушыныя сталовыя існуюць чацвёрты год. Яны знаходзяцца першнаперш побач паркавых сцяжынак-алеек, па якіх прагульваецца найбольш людзей.

Зараз, у халодную пару года, ёсць нагода дапамагчы нашым крылатым сябрам. Дзеці і моладзь ведаюць, што птушкі найлепш любяць сланечнік (можа быць з шалупіннем), зерне проса, сорга (суданскую траву), зерне льну, дробныя кавалачкі сушаных фруктаў і агародніны ды кусочкі нясоленай саланіны і мяса. Мы не павінны сыпаць корм на зямлю (асабліва там, дзе зараз жа падкрадаюцца каты і галодныя сабакі). Нельга таксама карміць птушак нясвежым хлебам ды ссохлымі цвёрдымі хлебабулачнымі вырабамі.

Птушыныя сталовыя будуць у парках да канца красавіка. Для птушак горад прызапасіў на зіму 850 кілаграмаў спецыяльнага, высокаэнергетычнага корму.

Варта прыпомніць, што птушкі ахоўваюць дрэвы ад насякомых і вусеняў, ад каштанавай мініруючай молі — пагрозлівага шкодніка нашых прыгожых каштанаў. Цёплай вясной і летам яны аддзячаць нам сваім прыгожым вясёлым спевам. **(яц)**

## На памежным пераходзе „Кузніца-Брузгі" адкрыўся пешаходны рух

Некалькі дзесяткаў асоб ужо перасяклі мяжу праз пешаходны памежны пераход „Кузніца-Брузгі", які пачаў дзейнічаць з 1 студзеня, — паведаміў дзяжурны афіцэр памежнага перахода ў Кузніцы:

— Пешаходны рух адкрыты ў абодвух накірунках з 1 студзеня гэтага года. На цяперашні момант пешаходны рух ажыццяўляецца кругласутачна. Зараз святочны перыяд, таму агулам рух слабы, калі ідзе пра легкавыя і грузавыя аўтамабілі, што таксама перакладаецца на пешаходны рух. Пакуль мяжу пешшу перасякае па некалькі дзесяткаў чалавек на дзень.

Пешаходны рух у Кузніцы — гэта адна з першых змен на беларуска-польскай мяжы. Чакаецца, што ўжо ў гэтым годзе пешаходны памежны пераход з'явіцца ў Полаўцах.

Найдаўжэй з'ўлення пешаходнага руху давядзецца чакаць у Баброўніках — гэта звязана з каштоўнай інфраструктурай. Перамовы з Беларуссю па гэтым пытанні ўжо ідуць.

**Радыё Рацыя**

**Рэдакцыя „Нівы" сардэчна дзякуе ўсім нашым Чытачам, установам і прыхільнікам за святочныя і навагоднія пажаданні. Будзем разам і ў 2014 годзе**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Яслі па-міхалоўску

— Калі год таму мы ўвялі беларускую мову, мы баяліся, не ведалі ці вучні будуць хадзіць на ўрокі — кажа Ян Лукша, дырэктар Комплексу школ у Міхалове. — Па-рознаму бывае, калі заняткі для добраахвотнікаў. Цяпер мы ведаем: беларуская мова для нас патрэбная. Яна прыжылася, і галоўнае — дзеці, бацькі і настаўнікі палюбілі яе...





Ужо другі год запар мы адсвяткавалі „школьныя яслі" ў Міхалове. Мястэчка прывітала нас калядным казачным дэкорам. На „школьныя яслі" з'явілася ўся знаць з горада і гміны. Каб пазахапляцца дзеткамі і падзяліцца калядной радасцю з настаўнікамі. Нас уразіла праграма, а больш дакладна яе кампазіцыя. Ужо сам калядны дэкор гаварыў шмат. Правы бок сцэны быў упрыгожаны вышываным ручніком. Таксама калядная п'еса была на розных мовах: польскай, беларускай, англійскай. Сімвалам ідэі тут можа паслужыць калядка „Ціхая ноч", якую праспявалі на трох мовах: па-беларуску, па-англійску, па-польску. Частка спектакля была на беларускай мове. Яе падрыхтавалі вучні шостага класа пад кірункам Эміліі Грыкі. За калядным сталом, з сапраўднымі стравамі, якія пахлі на ўсю залу, дзяўчаты і хлопцы распавядалі пра абрады. Вельмі файна паказалі з'яўленне першай зоркі — праз залу стралой праляцела прыгажуня ў карункавай сукенцы з белай тонкай паперы. Гэты касцюм наклікаў асацыяцыі з ёлачнымі аздабленнямі. Дзеткі з пачатковых класаў глядзелі з прыадкрытымі роцікамі. За калядным сталом нашы сябры гаварылі пра павер'і, спявалі калядкі і зімовыя песні („Рождэство Хрыстово", „На санках").



— Нам вельмі хацелася прыняць удзел у такой пастаноўцы, — кажа Валерыя Люляк, — бо нешта падобнае было ўжо ў мінулым годзе. Пачалі рыхтавацца яшчэ ў лістападзе.

— Ці нешта было для цябе новым, нечаканым?

— Не, мы зрабілі Каляды так, як робяць нашы мамы і бабулі. Яны, дарэчы, дапамаглі зрабіць нам яду. Усе моцна ангажаваліся, перажывалі...

Для Мартыны Еско беларуская пастаноўка таксама нагадвала традыцыі з роднай хаты.

— Мая сям'я таксама выглядае першай зоркі, садзімся за стол, спяваем калядкі. У час свят, едзем наведаць бабулю.

Бабуля Мартыны жыве непадалёк Заблудава.

— Я не магу ўявіць сабе Каляд без бабулі, — кажа Мартына.

Нашай размове прыслухоўваецца Агата Чабан. Агата ўжо тры гады ходзіць на заняткі музыкі ў Гарадскім доме культуры.

— Пакуль выступаю на мясцовых святах, перад нашай грамадскасцю, — кажа гімназістка.

Агата прызнаецца: яе мара — стаць прафесійнай спявачкай.

Пытаю ў дзяўчат, што найбольш падабаецца ім на ўроках беларускай мовы.

— Усё падабаецца: песні, вершы, сцэнкі, — пералічваюць, — гэта нешта новае і адначасова вядомае, такое свойскае...

— Мне не трэба было нікога спецыяльна намаўляць да ўдзельніцтва ў спектаклі, — кажа спадарыня Эмілія Грыка. — Мае вучні самі гарнуліся, каб нешта файнае зрабіць. Увесь час у нас шмат новага, цікавага. Вось, 15 студзеня будзем адзначаць дзень бабулі і дзядулі. Мы падумалі, каб гэтае свята адзначыць у форме конкурсу на вершы Віктара Шведа.

Пытаем, як у школе ўспрынялі поспех у літаратурным конкурсе беларускай паэзіі і прозы.

— Гэта вялікі гонар для нас усіх. Наш дырэктар загадаў, каб усе ўзнагароды перадаць у час агульнай лінейкі. Каб гэта было ўрачыста і каб усе бачылі... — адзначае настаўніца.

Школьнае свята ўдастоіў сам бургамістр Марк Назарка. Як прызнаўся нам, выступленне на беларускай мове ўзрушыла і захапіла яго. Таксама як поспех міхалоўскіх вучняў у літаратурным конкурсе.

— Такія поспехі не бяруцца з паветра, — кажа спадар Назарка, — проста, беларуская мова для нас не чужая. Яна тут заўсёды была і жыла. Я сам да сямі гадоў, пакуль не пайшоў у школу, размаўляў на нашай гаворцы, па-просту. Бо так гаварылі мае дзяды, у якіх я гадаваўся. Мы ганарымся тым, што сёння, калі так многа гаворым пра еўрапейскія каштоўнасці, беларуская мова вярнулася ў школу. Мы далі зялёнае святло, а людзі гэтым пакарысталіся. І гэта цешыць. А найбольш, што ўсе пра гэта добра гавораць.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

## Школа

Я люблю беларускую мову,
Матэматыку і сваю школу.
У школе няма часу на дурноты,
Многа ў трэцім класе работы.
Я люблю пісаць, чытаць,
На занятках пільна працаваць.

***Вікторыя Габец***
*з Міхалова*
*і **Наталля Васько***
*з Кабылянкі*

## Зіма

Хай лес усмешку пасылае,
Калі зімовы маем час,
Калі вясна яшчэ чакае,
Каб зноў прыйсці ў час!

***Наталля Госцік,***
*Саколе, ПШ у Міхалове*

## Мама

Мая маці каханая,
Як бы маляваная.
Праводзіць са мною час,
Заўсёды кахае нас!
Часта жартуе,
Штось нам намалюе,
Парадак у пакоі наводзе
І заўсёды паспее на час.

***Валерыя Люляк**, Міхалова*

## Свята

Вясёлае свята!
У свята калядкі спяваем.
Ёсць куцця, боршч і рыба.
Дзед Мароз прыйдзе хіба!
Аплаткай падзелімся,
Усім здароўя пажадаем.
Гэтакі настрой нам падабаецца.
Гэта больш як у тыдні адна нядзеля!

***Вераніка Буйка,***
*Навасады, Школа ў Міхалове*

# Зялёны Стук

Дыяна ЮРЧУК, *Гайнаўка*



Пяцікласніца Марыся пайшла ў лес па суніцы. Невялікая паляна ажно чырванела ад іх. Дзяўчынка збірала суніцы ў кошычак. Раптам пачула стук у дрэва.

— Дзяцел дрэва лечыць, — падумала.

— Стук! Стук у дрэва! Уцякай, злосны Вадзелю! — закрычаў хтось на ўвесь голас.

Марыся падумала, што яе сябры ідуць па суніцы і гэтак крычаць. Глянула ўбок, ды не ўбачыла нікога. А хтось усё паўтараў тыя самыя словы.

— Хто ты? Пакажыся мне! — крыкнула Марыся.

— Глянь на дуб!

На ствале дуба сядзеў вялікі зялёны чарвяк.

— Я — Зялёны Стук, — адазваўся чарвяк. — Рэдка з кім гавару і рэдка каму паказваюся. Ты добрая дзяўчына. Вельмі ахвотна памагаеш іншым. Хачу цябе асцерагчы перад Вадзелем.

— Не думала я, што чарвяк можа гаварыць.

— Усе стварэнні гавораць, толькі вы не разумееце іх мовы. Я гавару цяпер па-чалавечы, каб ты ўсё зразумела. Я створаны Богам, каб добрых людзей асцерагчы ад злога Вадзеля. Ён водзіць людзей па лесе. Яны блукаюць. Рэдка самі выходзяць з лесу.

— Чаму Бог яго не знішчыць?

— Гэта таксама божае стварэнне. Тварэц усіх любіць і ад усіх чакае пакаяння. Гэта як у людзей. Адно дзіця паслухмянае, другое — не. Бацькі дакараюць кепскае дзіця і чакаюць, што яно змяніцца. Бог, каб дакараць іншыя непаслухмяныя стварэнні, стварае такіх, якія ім дакучаюць. Мяне стварыў, каб я дакучаў злоснаму Вадзелю

— Гэта дзіўна, што ён цябе баіцца, ты ж толькі чарвяк.

— Я не просты зялёны чарвяк, я грызучы чарвяк. Я ўгрызаюся ў цела і грызу колькі хачу. Усе злыя стварэнні мяне баяцца.

— А чым ты кормішся?

— Я ем кару дубоў і ялін. Табе на развітанне скажу, каб ты малілася ідучы ў лес, тады Вадзель да цябе не падыдзе.

Як паявілася стварэнне на дрэве, так і знікла.

— Марыся, Марыся! — пачула дзяўчынка ўстрывожаны голас мамы.

— Я тут! — крыкнула Марыся.

— Дзе ж ты прападала ўвесь дзень? Я думала, што ўжо заблудзілася.

— Я збірала суніцы. Не заўважыла, калі дзень кончыўся.

Глянула Марыся ў кошык і вельмі здзівілася. Кошык быў поўны! Перад размовай са Стукам суніц было толькі на дне. Яшчэ больш дзівіла тое, што гаварыла з ім пару хвілін, а тут, аказваецца, увесь дзень прайшоў!

Аб сустрэчы з Зялёным Стукам Марыся расказала толькі мне. Баялася, што нашы сябры і яе бацькі ёй не павераць і будуць смяяцца.

# Надта жывая сустрэча

У бельскай „тройцы” найлепшая традыцыя, калі ідзе пра сяброўства з „Зоркай”. Яна выводзіцца яшчэ ад Яраслава Кастыцэвіча, слаутага патрона школы. Яраслаў Кастыцэвіч як ніхто разумеў, што навучанне роднай мове не можа абысціся без пісанага слова. У школе адразу дацанілі „Ніву”, асабліва яе адкрытасць на праблемы дзяцей і моладзі.

І зараз, калі да нас прыязджаюць вучні з бельскай „тройкі”, яны добра разумеюць мову і не ўяўляюць, што можна вучыцца беларускай мове не ведаючы „Зоркі”. 19 снежня 2013 года нас наведалі пяцікласнікі з Бельска: вучні пятага „а” і пятага „д” класаў. Як сказалі дзеткі — такія экскурсіі, гэта здзяйсненне іх мар. Кожны раз, калі ў школу прыходзіць газета, яны адразу гартаюць старонкі, шукаюць сваіх знаёмых на фатаграфіях, правяраюць вынікі жараб'ёвак. Дзецям падабаюцца крыжаванкі, беларускія загадкі. Зразумела, сустрэчу мы наладзілі ў форме конкурсу. Задачай вучняў было прыдумаць добрыя пытанні на тэму „Нівы”.

— Што трэба зрабіць, каб навучыцца пісаць і стаць беларускім журналістам? — пыталі сябры.

Раней яны наведалі Радыё „Рацыя”, дзе пабачылі працу радыёжурналістаў.

— Трэба многа чытаць па-беларуску, — падказалі мы, — і размаўляць па-беларуску з кожным, хто яшчэ ведае жывую мову. Добрай нагодай для гэтага будуць Каляды, калі сустракаемся з дзядулямі і бабулямі, жывымі носьбітамі мовы...

Што яшчэ падабалася? Усе дацанілі літаратурныя спробы нашых аўтараў. Разам мы прачыталі вершы Габрысі Торкі, Басі Дамброўскай, Касі Харкевіч і Магдаліны Бяляўскай. Вершы аднагодкаў, не то што спадабаліся, яны проста захапялі! Пад іх уплывам нашыя сябры таксама захацелі пісаць па-беларуску...

Тут трэба дадаць, што ў якасці ўзнагарод мы прапанавалі культавы том „Жывінкі з глыбінкі”, які, дарэчы, нарадзіўся ў „Зорцы”. Жывы і цікаўны настрой сустрэчы спрычыніўся да таго, што мы і не прыкмецілі, калі скончыўся запланаваны час. Дзеці і іх настаўніцы спяшаліся ў кіно. Зразумела, дамовіліся на працяг сустрэчы ўжо ў Бельску, у школе імя Яраслава Кастыцэвіча.

Файна, калі з двух бакоў ёсць зацікаўленне і ахвота сустракацца. Вясёлых канікулаў Вам, даражэнькія! Гуляйце, адпачывайце, чытайце!

ЗОРКА



## Вершы Віктара Шведа

### Найдаражэйшае — бабулі

Бацькі заўжды паўтараюць
Каб усе ў хаце чулі:
— Найдаражэйшае, што маюць,
Аддаюць нашай бабулі.

— Скажы, што гэта такое,
Калі не ёсць сакрэтам?
— Аддаюць мяне з сястрою
У вёску на ўсё лета.

### Падман

— Татулька, сёння шукаў
Цябе нейкі пан Вясёлы.
— А што ён табе сказаў?
— Што хадзіў з табою ў школу.

— А як выглядаў гэты пан?
— З лысінай і барадою.
— Дык гэта нейкі падман,
Такі не вучыўся са мною.

## Польска-беларуская крыжаванка № 02

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 50:**

Хларафіл, ар, яд, шасі, атрымальнік, карусель, сад, літ, тапаль, код. Хада, трап, ас, руда, мель, шалі, альт, лось, індык, прыклад.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вікторыя Патонец, Ізабела Бароўская. Кшыштаф Бірыцкі, Аня Бяляўская** з Наракі, **Ганна Годзінская, Дамініка Календа, Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Наталля Ніканюк, Марыя Варанчук** з Арэшкава. Віншуем!








Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ

## Мак

Пасябраваў мак чырвоны
з сіняю валошкай,
заглядзеўся на яе,
закахаўся трошкі.

А валошка сіняя,
кветачка нявінная,
што расце там за аўсом,
хоча быць з кукалём!

А куколь, як куколь,
разглядаўся наўкол,
на валошку ўсё маргаў
на дзявок спаглядаў.

— Ой, куколь, ты куколь,
нахіліся да мяне
(вось там расце чырвоны мак)
і на дзяўчат не глядзі так!

— Ах, валошка ты мая,—
кажа той чырвоны мак. —
Я прыгожы, верны, твой.
Буду мілей чым куколь.

## Над магілай

Ля магілы стаяла дзяўчына,
ў чорна плацце адзета была,
горка плакала і гаварыла,
што каханай ягонай была.

Над магілай усё птушкі кружылісь,
вецер дрэвамі ціха хітаў.
А ў вачах яе слёзы круціліcь
і іх град ма магілу спадаў.

А яе тыя горкія слёзы
так як горкая рэчка плылі
і ў сырую зямлю яны падалі,
і гасілі гаручы свячы.

Над магілай ужо зорка свяціла,
месяц ясны сюдой праплываў.
А ўсё тое іх шчыра каханне
Бог у сырую зямлю пахаваў.

Ды ты ўспомні, каханы, міленькі,
як ты моцна мяне цалаваў.
А цяпер ужо ніколі, ніколі
ужо не будзеш мяне больш кахаў.

## Ля бярозкі

Ля бярозкі стаяла дзяўчына,
вецер косы яе развяваў.
А дарогаю ехаў хлапчына
і ўсё на яе спаглядаў.

Чом не можам быць разам з табою?
Чом Бог сцежкі так нам скрыжаваў?
Чом не любіш мяне, дарагая?
Чаму я Цябе так пакахаў?

А дзяўчына тая маўчала,
толькі вочы ўверх падняла:
бо яна яго шчыра кахала,
толькі быці з ім не магла.

А ты едзь зсюль, мой мілы, міленькі,
і шукай сабе шчасця з другой.
А мяне больш ніхто не палюбіць.
Ды ж навекі я буду тваёй.

## Пасталы

Лыкавыя башмакі,
пасталы лыком шыты
і на клей не браны —
беларускіх мужыкоў
яны калісь абувалі.
Былі лёгкі і здаровы,
не то што цяпер гумякі,
толькі што ў іх не маглі
хадзіць у ваду мужыкі.
Затое ніц не каштавалі,
зусім дарэмныя былі,
бо ўсе нашы мужыкі
з лыка ліпавага іх плялі.
Усе ўмелі іх плясці,
і старыя, і малыя,
і для іх усіх пасталы
былі вельмі дарагія,
дык мелі пасталоў
па некалькі пар у хаце,
бо тыя прамакалі
і часта трэба было іх мяняці.
А цяпер у гумяках
ног не можаш памачыць,
але ж пасля раматус
ўсім прыходзіцца лячыць.

## Восень

Апусцелі нашы поля
ўжо не першы раз.
Травы, лісце пажаўцелі.
Восень ідзе да нас.
Птушкі адлятаюць
ад нас у цёплы край,
сонца бляднеи свеціць,
мглой закрыты гай.
Ужо збожжа зжата,
пуста на палях.
А ўжо вось і восень
стаіць у дзвярах.
Засталіся з намі
крук і верабей,
і ты, наша восень,
шчэ іх тут агрэй.
Лісце ціха ападаець,
ціха дзеравы шумяць.
Дрэмле гай і дрэмлюць людзі,
а грыбы ў лес маняць.

## Запрашаем

Падляшша бульбай усё багата.
Запрашаем у нашу хату.
Будзем бульву запякаць,
скварачкамі акрашаць.
Будзем жарыць і варыць,
будзем бульву мы тушыць,
будзем есці із грыбамі
з усенькімі сябрамі.
І вось бульва ўжо кіпіць,
трэба грыбны соўс рабіць,
памідоры із смятанкай,
што прынёс сусед наш Янка...
Будзем і бліны пячы
ды есці з каўбаскай.
А вас тожа, даражэнькі,
запрашаем, калі ласка!

## Бульву мы капалі

Бульву, бульву ўсе капалі,
і старыя, і малыя,
бо нам усе гэты бульвы
вельмі, вельмі дарагія.
Любяць бульву беларусы
і падкручваюць усе вусы.
Калі бульва на стале,
будуць есці бульву ўсе.
Бульва, бульва на стале!
Засядайце за стол усе.
Пап'еш бульву малачком
і не будзеш дурачком.
Бульва ёсць, і крышку мяска,
то яда ўсім і ласка,
крышку масла і тады
ужо поўна ўсім яды.
Бульва, бульва ды з капустай,
раз худзейша, а раз тлуста,
бульва з кіслым агурочкам —
парасшпільваем сарочкі.
І не схаваем ужо мы
жывата за паскам,
калі сабе пад'ямо
нашай бульвы з мяскам!

## Дыета

Ды а тая мая дыета,
то бяда дык цэла гэта.
Нельга тут сабе прысесці
ну і мяска пераесці.
Цэлу дыету яна мяса не ела.
А як прысела,
паўкумпяка з'ела,
папіла ўсё гэта вінцом
і стала енчыць з жыватом.
Як падверне дык пад грудзі!
Ой, бяда, ратуйце людзі!
Ты, Янка, бяжы хутчэй
па шаптуху ад вачэй.
Можа, загаворыць што яна,
абміне мяне бяда?..
Пакуль Янка прывёў шаптуху,
баба ўжо ляжыць без духу.
Каб не цэла гэта дыета,
жыла б далей баба гэта!

# Сымон Будны — зямляк?

Адным з віднейшых беларускіх інтэлектуалаў XVI стагоддзя быў Сымон Будны. Дакладныя даныя пра ягонае паходжанне невядомыя, аднак месца ягонага росту пазіцыянуецца ў нашым старонні. Адзін з беларускіх даведнікаў так піша пра яго: „Пытанні пра месца нараджэння і нацыянальнасць Буднага застаюцца дыскусійнымі. Дакладна не высветлена, беларус ён ці паляк. Аднак нават тыя, хто лічыць Буднага палякам, пагаджаюцца, што вельмі многія факты сведчаць на карысць яго беларускага паходжання: добрае веданне беларускай мовы, жыцця, нораваў, звычаяў, рэлігійных уяўленняў беларусаў, значная колькасць беларускіх слоў, фразеалагізмаў, народных прымавак і прыказак у яго творах, напісаных на польскай мове, беларускі патрыятызм і да т.п.” Шмат якія даведнікі месцам ягонага нараджэння падаюць Будна, вёску на правабярэжжы Бобры, у трох кіламетрах ад Ганёндза, што ў згаданы час быў на паўночных акраінах Бельскай зямлі Падляшскага ваяводства. Менавіта адгэтуль і выводзіўся круг блізкіх Буднаму мысліцеляў, а ў іх ліку Пётр з Ганёндза, Павел з Візны ці Якуб з Калінаўкі. І цалкам магчыма, што ў той час „тутэйшай” мовай карысталіся яшчэ шматлікія жыхары Ганёндза і наваколля, пра што сведчыць дазвол караля Аляксандра ад 1501 года карыстацца тамашнім святарам „літоўскай” мовай.



https://picasaweb.google.com

У Еўропе XVI стагоддзе стала перыядам буйнага росту розных рэлігійных плыняў, што вырваліся з-пад папскага падпарадкавання за бунтам тагачасных рэлігійных рэфарматараў у Германіі і Швейцарыі. Неўзабаве новыя ідэі даходзяць у Кракаў, дзе вучацца шматлікія выхадцы з Вялікага Княства Літоўскага, у іх ліку Пётр з Ганёндза і крыху пазней Сымон Будны. Рэвалюцыйныя ідэі захапляюць маладых тэолагаў з Падляшша. Пётр з Ганёндза становіцца выразнікам найбольш радыкальнай плыні антытрынітарызму. Гэты напрамак атрымаў таксама назву арыянства, а галоўным тэзісам гэтага руху было адмаўленне ад догмата трыядзінства Бога — Тройцы. Антытрынітарызм вяшчаў таксама радыкальную сацыяльную праграму, напрыклад, Пётр з Ганёндза выступаў супраць прыватнай уласнасці, сацыяльнай няроўнасці, феадальных законаў, войнаў ці смяротнага пакарання.

Сымон Будны займаў больш памяркоўную пазіцыю. Ён апраўдваў грамадскі і дзяржаўны парадак сваёй эпохі, у тым ліку і прыгонніцтва, аднак патрабаваў абмежавання феадальнай самаволі, выступаў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам, патрабаваў, каб вяльможы клапаціліся пра адукацыю простанароддзя і т.п. Калі Павел з Візны трымаўся пагляду, што вернаму непрыстойна мець падданых, у тым ліку рабоў і рабынь, бо ж гэта язычніцкі звычай панаваць над сваім братам і карыстацца ягонымі потам і крывёю, тады Сымон Будны адказваў яму, што яшчэ ў апостальскі час верныя мелі рабоў, тады і цяпер могуць іх мець, толькі павінны з імі абыходзіцца па-хрысціянску, нельга над імі здзекавацца, але ўчыняць ім усялякія палёгкі. І багацце трэба мець, каб тым багаццем пасля дзяліцца з беднейшымі ў патрэбе, бо калі не будзе багацця ў багатых, то чым жа яны дапамогуць патрабуючым: „Nie tego więc po swych uczniach chce Pan, żeby nic nie mieli, ale żeby hojnie jałmużnę dawali, a przyjaciół sobie przymnażali, nie jedno im tego, co zbywa, udzielając. Bo więc pospolicie ludzie się tak obmawiają: dałbym jałmużnę, ale na ten czas nie mam gotowych pieniędzy, otóż Chrystus przeciw temu uczy: przedawajcie, co macie, a dawajcie jałmużnę. Gdzie trzeba baczyć, iż nie to każe, żebychmy razem wszytko przedali, a razem też jałmużnę dali, bo jeślibyśmy winni razem wszytko przedać, tobyśmy też tylko raz jeden mieli jałmużnę dać, ale cóż by to było? Niedobrze ten wyrok Pana Chrystusów pospolici tłumaczowie przekładają: Przedajcie, a dajcie, zamiast: Przedawajcie (po trosze lub po części), a dawajcie (ustawicznie, nie raz tylko albo dwa)”.

КАТИХИЗІСЪ

ТО ЕСТЬ

Будны быў таксама за тое, каб і духавенства мела маёмасць, каб не было яно прасіцелямі ў багацеяў: „Jeśliby Bóg dał któremu z nas takie żniwo, jakie za apostołów w Jerozolimie było, że tysiącami do Chrystusa ludzie przystępowali, tedyby się nie godziło pastyrzom pracami około doczesnych rzeczy zabawiać, lecz teraz ledwie raz albo dwa razy na tydzień jest komu przepowiadać, a cóż k'rzeczy nie chcieć dojrzeć roboty? Gdzieby nadanie kościelne było niemałe, tedyby rzecz słuszna, aby na to jaki mąż bogobojny obran był, który by wiódł gospodarstwo, a z onych dochodów żeby i pastyrzowi, i katechistom wychowanie słuszne dawał, także i szkolnemu sprawcy, ludziom ubogim i wszem inym, co by tego godni. Lecz gdzie mierne nadanie, może i sam pastyrz z żoną gospodarstwu zdołać i powinności pasterskiej dosyć czynić, jak św. Paweł i rzemiosło robił, i apostolską powinność wypełniał. Przeto i teraz nie wadzi pastyrzowi rzemiosł porabiać albo sobie z folwareczku żywność przemyślać, lepiej niż żebrać albo panu o każdą rzecz dokuczać”.

Пра рабства: „Mogą więc mieć chrystianie poddane i niewolniki, gdyż mieliby nad nimi miłosierdzie znaczne okazować, nie jedno im groźby odpuszczając, ale też niektóre na wolność lub swobodę wypuszczając. Faraonowi tylko okrutnemu a nie jego Egiptczanom przystoi, raz kogo zniewoliwszy, nigdy na miłą wolność nie wypuścić, ale i dzieci jego, i wnuczęta jego, i wszystko potomstwo na wieki w niewoli trzymać. Którego się obyczaju i naszy Litewczycy, także i Rusacy, mocno, ale barzo niesłusznie trzymają: czasem o beczkę żyta dawszy ojca powiesić, dzieci jego w niewolę wieczną biorą i tak bez miłosierdzia w niej dzierżą. To złe, a nie prawe prawo, którego chrystianie używać nie mają, gdyż napisano, że nie mają dzieci za ojca cierpieć, jak i ojcowie za dzieci”.

Гэта толькі некаторыя з ягоных грамадскіх поглядаў; а яшчэ ж былі і справы тэалагічнага характару. Гэтая свабода выказванняў была тады магчымай таму, што каралеўскі трон займаў у той час Жыгімонт Аўгуст, які надта не ўмешваўся ў грамадска-тэалагічныя спрэчкі сваіх падданых. Справы пачалі мяняцца пры наступных каралях, ужо выбарных, што выводзіліся звонку Вялікага Княства Літоўскага, якія менш прыхільна бачылі вальнадумства сваіх падданых. Ды і мецэнаты, літоўскія вяльможы, пачалі з ходам часу адыходзіць ад сваіх ранейшых наватарскіх захапленняў. Па Еўропе прайшла хваля контррэфармацыі, якая ў прынцыпе вярнула ранейшыя парадкі. І постаць жа самога Сымона Буднага асталася свайго роду крышку прызабытай намі крупінкай нашай духоўнай спадчыны. Ён, здаецца, з нашага старонні, наш зямляк, яркім метэорам праляцеў па грамадскім гарызонце Рэчы Паспалітай перыяду Рэфармацыі. Таму тут і згадка пра яго.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Афарызмы Барыса РУСКО

Успамін — вылузванне названых хвілін з глыбы часу.

Памяць гэта кніга з бюро здарэнняў.

У прасторы сну няма пунктаў суадносін.

Крылаты розум узнімаецца ў прасторы пазнання.

Мары вёсламі надзеі.

Меч розуму рэжа гордзіевы вузлы Натуры.

Сонца — алімпійскі агонь запалены для гульняў жыцця.

Хлеб на стале — голад пад сталом.

Цень сонца згарэў у жары.

Лекар быццам матэматык: дадае, адымае, дыферэнцыруе і інтэгруе.

З палатаным сэрцам скочыш аж у ложак.

Вечнасць маўчыць і робіць сваё.

Прадаючы вернасць, купляеш здраду.

12.06.2013 г.

*Пераклаў з польскай мовы Віктар Швед*

**Віктар ШВЕД**

## Наш лёс

Мне кроўная і дарагая
Белае Русі нацыя.
Здалося мне, што паўстрымаю
Працэс асіміляцыі.

Пішу я вершы з нецярпеннем
Роднай стыхіі поўныя.
А маладое пакаленне
Ужо ў нас польскамоўнае.

І пажылы наш люд вясковы,
Які ледзь-ледзь трымаецца,
Адыходзіць са сваёй мовай
Туды, скуль не вяртаюцца.

Асіміляцыя няспынна
Праводзіцца лагодная,
І Польшча ўпотайкі краінай
Стаецца аднароднаю.

## Якія мы?

*Чаго беларусам не стае?*
*Проста мы самі не свае.*
Анатоль Вярцінскі

Мы ўжо без ціску, прымусу,
Не хочам быць беларусамі.
Адмовіцца хочам заўсёды
Ад роднай мовы, народу.

Хацелі б схавацца мы недзе,
Прыліпнуць да нашых суседзяў,
Каб памяталі заўсёды,
Што мы не іншай пароды.

Сталі мы раптам цурацца
Нават тутэйшымі звацца.
А хто ж мы тады такія?
Мы самі сабе ўжо чужыя.

# 2013 год (3)

У першых частках гэтага артыкула я перадаў важнейшыя падзеі першай паловы дзве тысячы трынаццатага года, а цяпер прыгадаю важнейшыя падзеі другой яго паловы.

І так, распачаўся ліпень спачатку зусім памяркоўным, а ад трэцяга дня дык проста спякотным надвор'ем. Распачаліся таксама школьныя канікулы. А гэта дадатковы абавязак бабкам і дзедкам — апекавацца і займацца ўнукамі. Работа сур'ёзная, адказная і нялёгкая, бо сучасныя дзеткі галосныя, непакорныя, крутыя, адным словам, „продвинутые" — як сказалі б расіяне. Без тэлевізара, камп'ютара, інтэрнэту і не думай з імі справу мецъ. Дзедаўскімі байкамі ды казачкамі іх не расчуліш, не задаволіш і не пачуеш іх улюбёнага слова „о'кей". Кулінарна іх задаволіць таксама справа няпростая... Менавіта такая парка хлопчыкаў распачала са мной і бабкай летнія канікулы, не першыя, зрэшты.

Хлопчыкі памаленьку пачалі прывыкаць да летніх канікулярных умоў. Спалі доўга, елі як бы нармальна, тэлеперадачы аглядалі, ноўтбук і смартфоны таўклі, рэшту часу праводзілі на пляцоўцы для гульняў і на веласіпедах. Трэцяга ліпеня наша дзедаўска-ўнукаўская кампанія паехала на веласіпедах у пушчу. Пагода была цудоўная, пушча таксама, дарогі і дарожкі гладкія-гладкія, птушкі весела спявалі, пчолкі працоўна бзыкалі, ліпа араматна цвіла, ну проста зачараваная казка, ідылія...

Спачатку заехалі мы ў, так бы мовіць, лясны праваслаўны санктуарый Крынечку, каб пазнаёміць унучкаў з нашай мясцовай святыняй і праверыць ступень іх рэлігійнасці. А там сярод дубоў, сосен, ялін, кустоўя і буйных траў дзве прыгожыя, дагледжаныя царкоўкі, студня са святой вадзічкай і атмасфера святасці. Пакланіліся мы святыням, памаліліся, папілі святой вадзічкі ды пакрапіліся ёю... Хлопчыкі выконвалі ўсё з веданнем справы, веданнем малітваў і перакананнем. Аказалася, што і „Біблія" з'яўляецца ім не чужой кнігай, хоць закончылі яны толькі другі і чацвёрты клас.

З Крыначкі мы паехалі глыбей у белавежскія пушчанскія нетры. Заехалі да жвіроўкі з велізарным валуном і там затрымаліся. З усіх бакоў агледзелі валун і доўга думалі-гадалі: як жа ён змог прывандраваць да нас з далёкай Скандынавіі?!. Колькі патрацціў на гэта часу?!. Па дарозе наведвалі таксама пушчанскія дрэвы — помнікі прыроды. Былі імі таўшчэзныя сосны, якія проста шапталіся з небам і магутныя дубы-веліканы, поўнасцю абняць якія змаглі мы толькі ў чатыры нашыя абхваты. Такіх дрэў і такой пушчы не знойдзеш ужо нідзе ў Еўропе. За адзін толькі гэты выезд наездзілі мы кіламетраў пятнаццаць. І змучаныя, але вясёлыя і шчаслівыя вярнуліся дадому. Думаю, карысным атрымаўся нам гэты ўрок на тэму „Пазнавай, любі, шануй сваю Малую Айчыну". Канешне, з усімі атрыбутамі яе: мовай, рэлігіяй, культурай, народнымі традыцыямі, прыродай... Пазнаваць, любіць і шанаваць яе абавязкова трэба, бо яна, Малая Айчына, нам і ўсім мінулым нашым пакаленням домам, карміцелькай, роднай маці была. І самім Богам яна ж нам дадзена...

Далей усё ішло сваёй чарадой, вядома ж, канікулы, летнія адпачынкі, мёртвы сезон. Сёлетнія ўраджаі атрымаліся някепскімі. Багата высыпалі грыбы, але грыбны сезон быў кароткім. Дружна сваімі спевамі славілі лета птушкі, толькі пушчанская зязюлька, па-мойму, спявала рэдка і неахвотна, можа ў знак пратэсту, што Белавежская пушча дасюль не набыла годнага ёй статуса...



І так, у кліматычным сэнсе даволі спакойна пражылі мы лета і восень. Да канца лістапада не было ў нас праліўных дажджоў, магутных віхур, снегу і марозу, увесь час тэмпература трымалася вышэй нуля. Да пастаянных парламентарна-медыйных працістаянняў дайшлі яшчэ і вулічныя працістаянні. Былі мітынгі, забастоўкі, урачыстыя шэсці. Апагей іх прыпаў на свята Незалежнасці Польшчы. Мітынгоўшчыкаў сабралася мноства — і, зарадзіўшы свае акумулятары агрэсіяй, нянавісцю, пайшлі на расійскую амбасаду разраджаць гэтую агрэсію. Пяснеслі́ся патрыятычныя песні, крыкі, кактэйлі Молатава, трэск ламаней агароджы, выбітых акон, успыхнуў пажар... І хоць гэтая забава каштавала толькі некалькі дзесяткаў тысяч злотых страт, мітынгоўшчыкам радасна і весела было... Закончыўся лістапад рэканструкцыяй нашага ўрада, у час якой заменена аж сем міністраў.

І апошні месяц года — снежань. Ён распачаўся даволі цёплай, сырой і панурай пагодай, якая з кожным наступаючым днём усё больш і больш зімовай рабілася. І хутка зусім зімовай стала: са снегам, ветрам і мінусавымі тэмпературамі. Для людзей снежань найчасцей спакойным месяцам бывае, бо і холадна, і цяжкія, небяспечныя дарогі і падарожжы. Да таго ж народ рыхтуецца да Раждзжаства і Новага года, а яны падвойныя ў нас. Так было б і ў 2013 годзе, калі б не ўкраінская справа. І хоць украінцаў у нас не надта любяць, але калі ўкраінскай справай можна зноў у нас насаліць Расіі і самому Пуціну, то чаму б не пакарыстацца такой нагодай. У такім выпадку мароз, цяжкія і небяспечныя дарогі не перашкода нашым. Вось і паперлі доўгай чарадою прадстаўнікі ўсіх нашых палітычных аптацый і фармацый на Майдан. Ды і ўсе нашы сродкі масавай інфармацыі былі перапоўнены ўкраінскай каніцеллю...

Я на Майдане не быў, бо ўжо заштатная і застарая мая аптацыя, але згодны з украінскай апазіцыяй, што Украіне патрэбны змены, рэформы. І калі не хоча ці не ўмее правесці іх украінскі ўрад, то трэба яго змяніць. У сваёй гісторыі ўжо нацярпеліся-нагараваліся ўкраінцы, пара ім па-жыць па-людску...

Карацей кажучы, Майдан змагаецца за Еўропу. Але далёка не ўсе ўкраінцы рвуцца ў Еўропу — і яны супраць Майдана. Польскія палітыкі і грамадства актыўна ўспамагаюць Майдан, бо бачаць у гэтым сваю карысць і не любяць Расіі і Пуціна. І судзяць іх за гэта не будзем. Расіяне і іх прэзідэнт наадварот — хочуць каб і надалей Украіна была звязана з Расіяй. У адваротным выпадку Расія панясе вялікія гаспадарчыя страты і паявяцца ў яе новыя клопаты. Вось таму Расія і Пуцін супраць Майдана. І таксама маюць сваю рацыю. Адным словам, наступіў канфлікт многіх інтарэсаў. Такія канфлікты даволі часта бываюць і яны вельмі небяспечныя...

З польскіх СМІ не даведаемся пра ўсю складанасць і небяспеку гэтага канфлікта. Паводле іх рацыя толькі на баку Майдана, а ўсё зло, нават не на баку ўкраінскага ўрада і прэзідэнта, а Пуціна. Вінаваціць яго ў нас нават за тое, што ён не дурань, не пешка ў міжнароднай палітыцы і што больш спрыяе сваёй Расіі, чым, напрыклад Украіне ці Еўрасаюзу. Парадокс нейкі. У палітыкаў так не бывае: няма вечных сяброў, толькі вечныя інтарэсы — як хтосьці сказаў...

**Васіль САКОЎСКІ**




# http://navahrudak.narod.ru

Старадаўні Навагрудак — жамчужына заходняй Беларусі. Яго значэнне ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці цяжка перабольшыць. Там калісьці месцілася сталіца Вялікага Княства Літоўскага, там нарадзіўся Адам Міцкевіч. Калі цікаўны турыст завітае ў гэты горад у Гродзенскай вобласці Беларусі, то ён не застанецца абыякавым да старых рэштак Навагрудскага замка, якія сталі ўжо яго сімвалам і своеасаблівым брэндам. Праўда, можна гэта пабачыць і завітаўшы на сайт па гісторыі Навагрудка і Навагрудчыны, што месціцца па адрасе **http://www.navahrudak.narod.ru.**

Першы погляд на галоўную старонку сайта пакідае ўражанне нейкай незавершанасці і цяжка зразумелага парадку размяшчэння артыкулаў. Адначасовае выкарыстанне рускай і беларускай моў не надае сайту вонкавай аўтарытэтнасці, бо падаецца, што яго ўладальнікі папросту не ў стане зрабіць дзве моўныя версіі. Нягледзячы на такую акалічнасць, цікаўнаму карыстальніку варта будзе азнаёміцца з вітаннем, што месціцца на галоўнай старонцы і дзякуючы якому становіцца зразумелым, чаму форма сайта значна прайграе яго зместу.

„Вітаю вас з заходнебеларускага горада Навагрудка. Навагрудчына пакінула шмат адметных старонак у гісторыі і культуры Беларусі і іншых краін. Тут закладваліся асновы Вялікага Княства Літоўскага, тут — радзіма вялікага паэта Адама Міцкевіча. Запрашаю вас пазнаёміцца з гісторыяй нашага краю праз мае аўтарскія артыкулы", — піша ўладальнік сайта, навагрудскі гісторык Мікалай Гайба. Паколькі сайт створаны гісторыкам і з большага для цікаўных гісторыяй, то не варта чакаць ад яго захапляльнага вэб-дызайну; галоўнае — змест артыкулаў.

Выйсці да артыкулаў, якіх вялікае мноства, месціцца ніжэй за вітанне. Тут таксама можна ўбачыць беларуска-рускую „цераспалосіцу". Першыя восем матэрыялаў з большага тычацца разнастайных гістарычных аглядаў. Да такіх можна аднесці гістарычныя календары, праўда, яны толькі за 2006, 2008 і 2011 гады.

Далей у спісе артыкулаў Мікалая Гайбы — тры раздзелы — гісторыя горада XI-XVIII стст.; XIX ст. і XX ст. Неяк вельмі нязвыклым падаецца размяшчэнне там жа раздзела „Навіны сайта", які не з'яўляецца асобнай рубрыкай, а толькі змяшчае пералік тэкстаў.

Што да навінных рубрык, то ўверсе цэлага выяўлення месціцца выйсце на „Навіны раёна". Праўда, аб іх на даны момант даведацца там аб чымсьці немагчыма, бо выдаецца памылка 404: „Старонка не знойдзена". Тое ж самае тычыцца рубрык „Фота Навагрудка" і „План Навагрудка". Такія велізарныя недахопы часткова кампенсуе старонка „Video". Там размешчаны некалькі цікавых відэароликаў з навагрудскіх мерапрыемстваў, фэстаў і канцэртаў.

Убачыць уладальніка сайта і аўтара артыкулаў Міколу Гайбу можна на старонцы „Аўтар сайта". Там месціцца як партрэтны фотаздымак гісторыка, так і ягоная навуковая біяграфія. Цікава, што ён не цурпіць ад ілжывай сціпласці — на данай старонцы мы можам знайсці выйсці на некалькі артыкулаў аб навагрудскім навукоўцы. Назва аднаго з іх гучыць надзвычай узнёсла — „Гайба — як многа ў гэтым прозвішчы...". Ён быў надрукаваны ў 2008 годзе ў газеце „Звязда", а пазней размешчаны на ўласным сайце Міколы Гайбы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



Дарыў дзецям казкі

### 110 гадоў з дня нараджэння і 35 гадоў з дня смерці

# Алеся Якімовіча

З творамі Алеся Якімовіча, выдатнага дзіцячага пісьменніка, маё пакаленне знаёмілася з першых класаў сярэдняй школы. Гэта асаблівы пісьменніцкі дар — патрапіць у душу дзіцяці, зацікавіць яго змалку родным словам. Якімовіч, мне здаецца, быў менавіта такім аўтарам.

Алесь Якімовіч нарадзіўся 17 студзеня 1904 г. у вёсцы Чурылава (цяперашні Узддзенскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Абсалютная бальшыня беларускіх пісьменнікаў таго часу нарадзілася менавіта ў вёсцы. У 1926 г. Якімовіч скончыў Беларускі педагагічны тэхнікум, у 1930 г. — літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1924 г. працаваў у рэдакцыях часопісаў „Беларускі піянер", „Іскры Ільіча". Адначасна быў сябрам літаратурнага аб'яднання „Маладняк". У першыя месяцы Другой сусветнай вайны выкладаў у адной з сярэдніх школ горада Чыстапаля ў Татарстане, быў адказным сакратарам раённай газеты ў Казахстане. У кастрычніку 1942 г. быў мабілізаваны ў Савецкую Армію. Ваяваў, быў спярша камандзірам стралковага ўзвода, затым роты, пад Харкавам быў цяжка паранены. З 1943 г. жыў у Маскве, займаўся рэдактарскай працай. Потым вярнуўся на радзіму. Працяглы час быў старшым рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, тры гады адказным рэдактарам дзіцячага часопіса „Бярозка" (1945-1948), літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Друкавацца Якімовіч пачаў яшчэ ў 1923 г. у часопісе „Маладняк". Першая кніжка пад сціплай назвай „Вершы" выйшла ў 1925 г. Пісаў пераважна для дзяцей, выдаў вялікую колькасць зборнікаў — каля трох дзесяткаў. У 1967 г. выйшлі выбраныя творы пісьменніка ў двух тамах, у 1978-1980 гг. — у трох тамах.

У апрацоўцы Алеся Якімовіча асобнымі выданнямі выйшла шмат беларускіх казак, а таксама зборнікі „Каток — залаты лабок" (1955), „Бацькаў дар" (1957), „З рога ўсяго многа" (1959), „Андрэй за ўсіх мудрэй" (1983), якія сталі сапраўднай класікай дзіцячай літаратуры. Якімовіч быў таксама сааўтарам школьнай „Чытанкі", аўтарам падручніка для 2-га класа „Роднае слова", кніг для чытання „Слухай — запамінай: азбука ў вершах і малюнках", „Звяры нашых лясоў". Вядомы ён як перакладчык, які адаптаваў на беларускую мову творы расійскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, а таксама Джэка Лондана, Гі дэ Мапасана, Ганса Хрысціяна Андэрсена.

Нехта напэўна можа папракнуць Алеся Якімовіча ў савецкасці і вернасці „лініі кампартыі". Для нас жа, беларусаў, вартасць працы гэтага пісьменніка ў тым, што ён рупліва збіраў беларускую народную спадчыну, творча яе перапрацоўваў, дарыў казкі юнаму пакаленню суайчыннікаў, радаваў прыхільнікаў пісьменства сваім дасціпным словам.

Памёр Алесь Якімовіч 15 студзеня 1979 г., не дажыўшы толькі пару дзён да сваіх 75-х угодкаў. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Імем пісьменніка названа школа ў вёсцы Зяньковічы Уздзенскага раёна.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Тут традыцыя не загіне

27 снежня 2013 года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) ладзілі Куццю для жыхароў пяці салэцтваў. Пачалася яна а гадзіне 17. Запрасілі на яе настаяцеля Стараляўкоўскага прыхода а. Леаніда Янкоўскага, раднага Гміннай рады ў Нараўцы Юрыя Равінскага са Старога Ляўкова, солтыса Новага Ляўкова Яна Целушэцкага, членаў царкоўнага хору. Са сцэны ўсіх радавала прыгожа ўбраная ёлка.

рыст-аматар Юрый Равінскі рабіў здымкі і здымаў кінафільм. Гэтага роду мерапрыемства для сем'яў з дзяцьмі і адзінокіх асоб арганізавалі ў святліцы ўжо дванаццаты раз. І запіс яго знойдзецца ў багатай фільматэцы Юрыя Равінскага.

На мерапрыемства ў святліцу завітаў Дзед Мароз са званочкам. Быў ён невысокі, старэнькі ды гарбаты, з доўгай барадой ды з кійком у руцэ. Зараз жа абступілі яго дзеці. Яны дэкламавалі яму вершыкі і спявалі самыя прыгожыя калядкі.

Найперш дзеці і моладзь (12 асоб) выступілі з гвяздай і прыгожымі вершамі пра Раджаство Хрыстова, каляднымі песнямі і малітвай „Госпадзе, памілуй”. Атрымалі яны падзяку ад а. Леаніда Янкоўскага за ўдалы выступ і за падтрымку традыцыі святкавання Раджаства Хрыстова, калядавання. Ён расказаў пра гісторыю гэтага радаснага свята і зычыў усім прыемнага сямейнага святкавання ды здароўя, шчасця і як найменш турбот у Новым годзе.

Пасля ўсе сабраныя (больш за 50 чалавек) за доўгім сталом частаваліся традыцыйнымі поснымі стравамі, якія рыхтуюць на Куццю. Перад пачастункам згаварылі малітву „Отче наш” ды падзяліліся просвіркай і аплаткай. На стале засланым абрусамі ўвесь час гарэлі вялікія свечкі. Панавала цёплая сардэчная атмасфера. Пакаштаваць было шмат чаго. Былі традыцыйныя смакавітыя напіткі з сушаных яблык і салодкіх вялікіх груш (шчолак).

На Куццю ў Ляўкова прыехалі журналісты беластоцкага тэлебачання і радыё. Наш мясцовы нястомны фатограф і каме-

Незвычайны госць хваліў іх за паслухмянасць, за добрую навуку і ацэнкі ў школе і частаваў шакаладнымі цукеркамі.

Вечар калядак прадоўжыўся да 20-й гадзіны. Дарослыя і дзеці праспявалі дзесяць доўгіх і кароткіх калядак. Некаторыя з іх спявалі ўпершыню. Гэтак усе славілі Ісуса Хрыста. Паплылі ўспаміны як калісь раней рыхтавалі куццю і якія стравы абавязкова мусілі быць на стале ў той вечар напярэдадні Каляд.

І так прыйшоў канец вячэры. Настаяцель а. Леанід Янкоўскі вельмі сардэчна падзякаваў арганізатаркам за шматгадовае прадаўжэнне традыцыі. Усім прысутным яшчэ раз зычыў моцнага здароўя і шчаслівага дачакання Каляд.

Святы вечар і Куццю арганізавалі новая кіраўнічка святліцы ў Старым Ляўкове Крыстына Паскробка і кіраўнічка бібліятэкі ў тым жа Ляўкове Аліна Барташук ды дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент і старшыня Таварыства „Ятрышнік” у Лешуках Альжбета Кунцэвіч.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

*Як калісь лячылі*

# Ружа

Бразнулі дзверы ў сенях і зараз жа ў кухню ўвайшла суседка Оксэня.

— Добры дзень, убачыла ў цябе святло фанара і прыйшла. Бач, спаць не магла ад поўначы, яшчэ калена баліць, о, завязала шматкай і кульгаю.

— А што ж такое ліхое цябе спаткала? — здзіўлена паглядзела на суседку Шурка.

— То ж ружа прычапілася, каб яе спрагло! — са злосцю адказала Оксеня. — Учора хадзіла спальваць да старой Марачыхі. Палажыла на калена шматку, пакулля і падпаліла, шэпчучы штосьці пад носам.

— Памагло?

— Каб ведала, памагло, сёння ўжо менш кульгаю, лягчэй хадзіць і згінаць нагу, ды трэба тры разы спальваць...

— А картоплі ўжо выкапала?

— Не не, асталося пару скібаў, ды стары вось сёння залажыў гнаянкі, укінуў у воз плуг і паехаў чуць свет выворваць. Паслязаўтра Прачыста, у госці да сястры ў Войшкі паехаць трэба. Я не паеду, хай сам едзе, — з людзьмі сустрэнецца, павяселіцца, а то ўсё праца ды праца, як то на гаспадарцы, чалавек прасвету не бачыць, а дарабіцца да нічога нельга... А капаць у поле не пайду, як жа сяду я ў баразну на скібу, калі нага не згінаецца. Дакопваць прыйдзе сёння Мікалайчыха з дачкою. Толькі пару скібаў... Мы ж сёлета з імі спрагаемся, ды і памагаем адны адным.

— А мы спрагаліся з суседам Іванам, ды пакінем, будзем шукаць другога супольніка, не шануе коней, шкадуе сваёй кабылкі, — дадала Шурка.

— А ты мо чула, захварэла Зіна Пецева, ну, нявестка Парасчына? — спыталася суседка.

— Чула. Чула, сечку рэзала ў клуні, і дзесьці трохі правеяла скразняком. І ў вушах закалола... А Пеця за сваёй прыгажуняй свету не бачыць, замест завесці да Марачыхі, каб попелам і малітвай палячыла, задумаў хутчэй да доктара ў Бельск... Па дактарах, пасадзіўшы ў воз, як якую карагодзіну возіць... Цьфу, — скрывілася суседка.

— Кажа, не верыць у вясковых шаптух, баіцца аб здароўе Зіны, закаханы. А яна, хоць замужняя, усё надалей фарсіць, штораз то ў іншай спацыроўцы ў царкву нядзелькай ходзіць... — смеючыся падсумавала суседку Оксэня.

— Цьфу, хутчэй Марачыха...

— Ой, даражэнькая, засядзелася я, а за патрэбай прыйшла, паўбуханкі пазычыць... Стары намалоў ужо мукі на хлеб у Кожыне, гожанькай. У жорнах перасталі мы малоць. А хлеб учора рашчыніла ў дзежцы... Спяку, аддам, — закончыла Оксэня і, узяўшы хлеб пад паху, выйшла хуткім крокам з хаты.

**Ніна БРУЧКО**

# 12.01 — 18.01

**(22.03. — 20.04.)** Магчымыя ўчынкі, пра якія потым будзеш шкадаваць. Твае сакрэты могуць быць раскрытыя. Кантралюй свае паводзіны, не давай свабоды сваім эмоцыям і пачуццям, каб пазбегнуць незваротных наступстваў. Калі ў цябе намечаны важныя справы, спішы іх на паперы чырвоным колерам. Пакладзі паперу на стол і пастаў на яе чырвоную свечку. Запалі кнот і дай ёй трохі пагарэць, а затым выцягні паперу і падпалі яе. Увесь гэты час уяўляй, што сіла агню перадаецца ў рэчаіснасць, убіраецца ў яе і зменяе так як ты хочаш.

**(21.04. — 21.05.)** Наступае светлая паласа. Адкрыюцца новыя магчымасці, атрымаеш перавагу над іншымі і здолееш павялічыць свае даходы. Рыхтуйся да грамадскіх і дзелавых сустрэч. У панядзелак дакладна вызнач чаго хочаш, і прытрымлівайся сваіх жаданняў. У аўторак будзь асцярожным з атрутнымі рэчывамі і старанна выконвай дазоўку лекаў.

**(22.05. — 22.06.)** Увесь тыдзень — выдатны час для прапановы рукі і сэрца, для заключэння саюзаў і стварэння аб'яднанняў. Будзеш бадзёры і ініцыятыўны, атрымаюцца ўсе справы, ва ўсіх сэнсах будзеш на вышыні. Скарыстайся ў поўнай меры сваімі прафесійнымі навыкамі: дзякуючы ім здолееш адстаяць свой пункт гледжання.

**(23.06. — 23.07.)** Маеш усе шанцы, каб пераканаць і схіліць да сваёй думкі ўсіх партнёраў і саюзнікаў. Скарыстайся гэтай часовай перавагай: у далейшым падобны выпадак ужо не прадставіцца. Прымірэнне з каханай асобай; зрабі першы крок.

**(24.07. — 23.08.)** Час нявызначанасці ў пытанні любоўных адносін, непаразуменні і раздражненне. Можаш атрымаць ілжывую інфармацыю. Не вер таму, чаго не ўбачыў на свае вочы. Не падпісвай непрачытаных дакументаў і не спадзявайся на запэўніванні нават самых лепшых сяброў. У панядзелак можа цябе падвесці памяць і будзеш доўга і пакутліва ўспамінаць забытае.

**(24.08. — 23.09.)** Лепшымі дарадцамі на гэтым тыдні будуць інтуіцыя і ўяўленне. Спрыяльны час для рэалізацыі творчых задум. У галаву прыйдзе табе шмат добрых ідэй, якія тычацца асабістага ўзбагачэння, аднак не варта прабаваць рэалізаваць іх адразу. Не варта планаваць дзелавых сустрэч на панядзелак. Не спяшайся, прымаючы ежу ў сераду, інакш папярхнешся. Чацвер добры для ўмацавання дружбы і ўзаемаразумення.

**(24.09. — 23.10.)** Рыхтуйся да прыемных нечаканасцей на працы, у справах і бізнесе. Твой капітал значна павялічыцца, наогул зможаш дамагчыся поспеху ва ўсіх сферах, не прыкладаючы асаблівых высілкаў. Толькі будзь асцярожны з новай інфармацыяй і не прымай неабдуманых рашэнняў. Умацоўвай адносіны з дзелавымі партнёрамі і пацвярджай свой аўтарытэт. У панядзелак вырашацца ўсе твае грашовыя праблемы.

**(24.10. — 22.11.)** Рэалізуй старыя планы. На гэтым тыдні вырашаюцца пытанні тваёй кар'еры, і калі выпусціш час і не праявіш патрэбнай ініцыятывы, застанешся ля разбітага карыта. Любое супрацоўніцтва вельмі выгадна. Рыхтуйся да новых сустрэч і раманаў (магчыма, службовых). У сераду прыслухайся да сваёй інтуіцыі — яна можа паведаміць важнае. Вестка, якая прыйдзе ў чацвер, нечаканая і радасная для ўсіх сямейнікаў.

**(23.11. — 22.12.)** Усе падзеі павінны быць падвергнуты грунтоўнаму аналізу. Разглядзь сітуацыю з усіх бакоў, абдумай усе шляхі яе зыходу і прымі правільнае рашэнне — у корані зменіш сваё становішча. Магчымыя харчовыя атручэнні. У сераду давядзецца працаваць на некалькі франтоў. Не ладзь разводу ў чацвер.

**(23.12. — 20.01.)** Прыемныя нечаканасці на працы, у справах і бізнесе: у прыватнасці, значнае павелічэнне прыбытку. Будзеш мець поспех ва ўсіх сферах жыцця. Аднак будзь асцярожны з новай інфармацыяй. У панядзелак хтосьці паспрабуе выкарыстаць цябе ў сваіх мэтах. Не купляй у аўторак электрапрыбораў.

**(21.01. — 19.02.)** Не вер таму, чаго сам не ўбачыў. Не падпісвай непрачытаных дакументаў і не спадзявайся на запэўніванні. Беражыся ўсяго, што гучыць занадта добра, не ідзі на лавушку рэкламы. Шанцы здабыць новую працу, паказацца з лепшага боку.

**(20.02. — 21.03.)** Нічым не абгрунтаванае пачуццё турботы. Прыслухайся да ўнутранага голасу: магчыма, твая падсвядомасць прабуе паведаміць пра тое, што ўвесь час выслізгвае ад твайго погляду. Паспрабуе гэтаму праўдзенне нейкага часу ў медытацыі і рэлаксацыі. Купі сабе што-небудзь у аўторак. Серада добрая для рознай даследчай працы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. замарыняваны прадукт, 2. хімічны элемент, які з'яўляецца асновай усіх арганічных рэчываў у прыродзе, 3. порт на захадзе Крыма, 4. лясны кабан, 5. сталіца Непала, 6. „непаседная” часціна мовы, 7. порт на поўначы Францыі, 8. мастацтва вакаліста, 9. вострапазаразная вірусная хвароба дзіцячага перыяду з гнойным сыпам на скуры (*Varicella*), 10. гнойная пухліна на арганічнай тканцы, 11. швейцарскі горад у трыццаці кіламетрах на поўдзень ад Берна.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | | | | | | | | |
| | | 3 | | | | 4 | | | 5 | | | |
| | | | | | | | | | 6 | | | |
| | | | | | | 7 | | | | 8 | | |
| 9 | | | | | | | 10 | 11 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афрыканская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Прыпяць, крыга, люк, дзед, юбілей, Твен, „Аіда”, Гоа, член, юрта, Убарць, Пагоня, след.

Рашэнне: **Людзі не любяць таго, чаго не ведаюць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

**З прыкмечанага ў начной цемры найбольш інтрыгаваў залаты конь у цэнтры. Грузіны лічаць Кутаісі найстарэйшым горадам свету. Пра яго места пісалі ўжо ў трэцім стагоддзі да Хрыста.**



# Мода на Грузію (ч. 2)

Від на гару, дзе знаходзіўся міфічны горад Айа

Адразу пасля пад'ёму мы пашыбавалі ў цэнтр, каб яшчэ раз паглядзець на помнік. У ранішнім святле мы ўбачылі... два залатыя конікі.

Ад уражання ледзь не паехала крыша.

— Ажарабіўся за ноч, ці што?

Залатая карціна здавалася адначасова мадэрнай, міфалагічнай і ўяўляла сабой нейкі звярынец. Вакол коней пасвіліся козы, авечкі, крыху далей стаяў струмкі залаты тыгр. Паміж фігурамі мякка пераліваўся празрысты паток вады. Толькі цяпер мы зразумелі, што глядзім на мадэрны фантан. Яго збудавалі на падсыпаным скрыжаванні з кругавым рухам, ды, здаецца, дзеля чыстага захаплення. Вакол, быццам планеты вакол Сонца, кружылі машыны і ганяліся маршруткі.

Яшчэ ў гэты сам дзень мы пойдзем па слядах міфічнай Калхіды, краіны, куды выправіліся арганаўты па залатое руно. Залаты фантан, як пуцяводная зорка, толькі апярэдзіць нашу прыгоду.

* * *

Усярэдзіне маршруткі, якую мы зламілі ля залатога фантана, выседжвалі расшчабятаныя маладзіцы, абчэпленыя эфектоўнай залатой і сярэбранай біжутэрыяй. У пэўны момант машына затармазіла: праз шашу, быццам у Індыі, дастойна прайшлі каровы. Крыху далей, на абочыне дарогі пасвілася рыжая свіння. З другога боку, на сшарэлым зімовым папасе хадзіў сабе статак авечак. Ніхто не даглядаў жывёлы, яна нават здавалася быць паўдзікай, пакінутай гаспадарамі. Апрача гэтага, дарога з Кутаісі ў Гелаці, куды ехалі мы ў жаночай кампаніі, ад якой ззяла цёплай жыццярадаснасцю, выглядала абязлюдзелай, мёртвай. Калі на гарызонце паказалася царква, кабеты, быццам на зважай, замашыста пражагналіся. Пасля наш выпадковы апавядальнік Звядзі скажа:

— Мы, грузіны, самы праўдзівы праваслаўны народ у свеце!

Знешнія прыкметы, падгледжаныя ў дарозе, сапраўды пацвярджалі яголныя словы. Грузіны, з якімі мы падарожнічалі, жагналіся пры кожнай царкве, пры кожным манастыры. Тон задавалі маладыя хлопцы і дзяўчаты. Нават шафёр не хацеў быць горшым, на момант пускаў руль і таксама жагнаўся. Адзін з іх у левай руцэ трымаў папяросу.

Маршрутка давезла нас пад муры славутага манастыра ў Гелаці, які сам па сабе з'яўляецца сімвалам залатога стагоддзя Грузіі. З 1994 года будоўля шчаслівая была занесена ў спісак сусветных культурных і прыродных каштоўнасцей ЮНЕСКА. Зараз там вядуцца рамонт і рэканструкцыя...

Прыезд у Гелаці абазначаў для нас дадатковы выклік: вось зноў мы прыбылі ў месца абранае і збудаванае святым царом Давідам Будаўніком. Ужо за брамай да нас падчапіўся Завядзі, гаваркі мужык, які спрараваў на месцы, прапануючы:

— Двайце, сходзім у месца, якое амалоджвае!

* * *

Знаёмства з манастыром мы пачалі з выпіцця кубка вады са святой крыніцы.

— Ад гэтай крыніцы пачынаецца ўся гісторыя месца, — пачаў наш выпадковы гід. — Цар Давід, яшчэ да таго як пачаў будаваць манастыр, агарадзіў крыніцу. У ёй пацякла гаючая вада. І яна дапамагае па сённяшні дзень.

— А на што яна дапамагае? — спыталі мы, маючы на ўвеце спецыялізацыю падляшскіх святых крыніц, дзе адны лечаць вочы, іншыя — скуру.

— А наша крыніца, — заявіў Звядзі, — амалоджвае. Кажуць, што колькі вып'еш вады, настолькі памаладзееш...

Апошнюю сенсацыю наш гід гаварыў без пераканання і, здавалася, што нават засаромеўся. Мы зразумелі, што апошнюю версію хутчэй падрыхтавалі для турыстаў. Яна дасканала строілася з новай лініяй іміджу краіны, такой найстарэйшай у свеце і адначасова цудоўна амалоджвай...

З другога боку не выпадала сумнявацца. Звядзі павёў пальцам па даляглядзе, які закрывалі заснежаныя вяршыні Вялікага Каўказа.

— Вось там, на горцы, бачыце?

— Бачым!



Манастыр ў Гелаці

Горка сваім кшталтам напамінала экслюзіўную арку на каменным моры. Там меў знаходзіцца міфічны горад Айа, сталіца старажытнай Калхіды, куды выправіліся арганаўты па залатое руно. У састаў адборнай каманды ўваходзіла пяцьдзесят два бясстрашныя героі, між іншым асілак Геракл, спявак і паэт Арфей і славуты Тэзей, той самы, які зламаў карак страшэннаму Мінатаўру. Усёй місіяй кіраваў Ясон і, дзякуючы яго таленту тое, што здавалася немагчымым, было дасягнута. Арганаўты дасталі ў свае рукі залатую шкуру з крылатага барана, якая вісела на дубе ў Калхідзе. Старажытныя хронікі пацвярджаюць наяўнасць залатой воўны на тэрыторыі Каўказа. Якраз авечымі шкурамі прашчуры грузінаў вылаўлівалі залаты пыл і самародкі са сваіх залатаносных рэк. Слухаючы аповед Звядзі, мы ўглядаліся на горскі зялёна-смарагдавы паток, які выцякаў дзесьці ад міфічнай сталіцы.

* * *

Манастыр у Гелаці быў пабудаваны ў 1106 годзе. Як кажа легенда, сам цар Давід закасваў рукавы і дапамагаў узводзіць царкву. Яго ангажаванасць здзіўляла народ, раз нават ён зляцеў з рыштавання і паламаўся. Цягам наступных стагоддзяў пры манастыры дзейнічала акадэмія навук. Асяродак называлі другім Іерусалімам. Самым цяжкім часам для будоўлі былі наезды асманаў і панаванне камуністаў. Апошнія апаганілі месца ды выгналі адсюль блізка сотні манахаў.

А напрыканцы лютага 1953 года тут здарыўся цуд. У манастыр, у атмасферы сакрэтнасці, з'явіўся Сталін. Ён стаў на калені перад магілай цара Давіда, доўга маліўся, плакаў, — заявіў сцішаным голасам Звядзі...

Ад здзіўлення мы прыадкрылі раты. Наш апавядальнік, відавочна, чакаў такой рэакцыі. Ён заўсміхнуўся і з той жа нотай сакрэтнасці дабавіў:

— Два тыдні пасля таго Сталін памёр...

Пасля такога ўступу, з падкуленымі нагамі мы сходзілі ў царкву Божай Маці. У ёй захаваліся фрэскі XII-XVIII стагоддзяў. У паўночным трансепце відне́ў абраз Давіда Будаўніка з царквой на яго працавітай далоні...

Аднак самай відавочнай фрэскай тут з'яўляецца Багародзіца з Дзіцяткам у атачэнні архангелаў Гаўрыіла і Міхаіла. Звядзі сказаў, што на выкананне гэтай фрэскі пайшло некалькі тон золата высокай пробы. Апошняя сенсацыя зусім не выклікала здзіўлення. Мы ж знаходзіліся ў міфічнай краіне, праслаўленай менавіта золатам...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**



Аўтарка са Звядзім на фоне фрэсак XII ст. Фота Дыяны Нахіла.



Залатая фрэска Прасвятой Багародзіцы з архангеламі

ISSN 0546-1960